КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 25 (297) ◂ 22 чэрвеня ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час

ISSN 2218-2144



**БЕЛАРУСКА Ў ГАЛІВУДЗЕ**

Стар. 6

**ЯДВІГА ВОЛЧАК: Я ХАЧУ ПАГЛЯДЗЕЦЬ У ВОЧЫ ТЫМ, ХТО КІНУЎ МАЙГО СЫНА ЗА КРАТЫ**

Інтэрв'ю з маці вядомага праваабаронца Алега Волчака

Стар. 5

**ЦІ ТРЭБА БАЯЦЦА СУРЖЫКА?**

Аранжавая апазіцыя сцвярджае, што ў выніку прынятага нядаўна закона пра моўную палітыку ва Украіне ўсе украінцы пяройдуць на суржык — украінскі варыянт трасянкі

Стар. 13

**УКРАІНСКІ СПЕЦЫЯЛЬНЫ ЎДАРНЫ БАТАЛЬЁН**

Стар. 14–15

**ДАРАГІЯ ЧЫТАЧЫ!**

**НАГАДВАЕМ: НАДЫШОЎ ЧАС ПАДПІСКІ НА ДРУГОЕ ПАЎГОДДЗЕ**

Падпісацца можна з любога месяца і тыдня праз пошту ці праз банк

▸ З НАГОДЫ

# СВЯТА, ЯКОЕ ЗАЎСЁДЫ З НАМІ

Вольга ХВОІН

**Афіцыйна абвешчаны старт палітычнай кампаніі года — выбараў у Палату прадстаўнікоў і Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі. Краіна не надта аклімалася пасля апошніх прэзідэнцкіх выбараў. У турмах яшчэ знаходзяцца тыя, хто адважыўся кінуць выклік кіраўніку дзяржавы, плошча Незалежнасці ў Мінску не паспела страціць флёр успамінаў брутальнага вечару 19 снежня 2010 года. Але ёсць загад — правесці выбары як свята!**




Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што парламенцкія выбары — гэта не толькі найважнейшая палітычная падзея для краіны, але і адказны экзамен для дзеючай улады, асабліва ўлады мясцовай. Ён мяркуе, што ўлады навучыліся ладзіць электаральныя кампаніі як свята, то трэба і надалей трымаць гэтую марку. «Мы навучыліся праводзіць выбары як свята для беларускага народа. Давайце яшчэ раз зробім гэта свята. Гэты дзень павінен быць святам для людзей», — заявіў Аляксандр Лукашэнка. Якое гэта свята, варта было б спытаць не толькі ў тых, хто мае магчымасць у дзень выбараў кульнуць на выбарчым участку чарку-другую і закусіць піражком, але і ў тых, хто прайшоў праз турмы, допыты, хто быў вымушаны з'ехаць у эміграцыю якраз далей ад беларускага «свята».

Відавочна, бліжэйшым часам у падыходах да арганізацыі выбарчага працэсу нічога не зменіцца. «Хачу адразу папярэдзіць. Ні пад каго звонку мы не павінны падладжвацца і не будзем гэта рабіць. Выбары праводзяцца для беларускага народа і выключна ў яго інтарэсах. Беларусь — суверэнная дзяржава і не прыме ніякага ўмяшання», — заявіў Лукашэнка. І дадаў, што ў краіне «як працавалі, так і будуць працаваць у звычайным рэжыме, без аўралу і надзвычайшчыны».

На думку кіраўніка дзяржавы, трэба старанна падысці да фармавання выбарчых камісій. «Прыняцце рашэнняў аб іх утварэнні варта рабіць, як таго патрабуе закон, адкрыта, з удзелам палітычных партый і грамадскіх арганізацый. Прадстаўнікоў партый, незалежна ад іх палітычных поглядаў, тых, хто годна зарэкамендаваў сябе пры правядзенні ранейшых выбарчых кампаній, трэба ўключаць у склад выбаркамаў. Тыя ж, хто раней спрыяў дэзарганізацыі выбараў, не павінны атрымаць другога такога шанцу», — адзначыў Лукашэнка. Гэта азначае, што падрыхтаваныя людзі ад апазіцыйных партый, НДА, якія раней мелі прэтэнзіі да працы выбаркамаў, наўрад ці змогуць прайсці адбор.

Разам з тым ёсць намер рэгістраваць усіх. «Усіх, хто мае права быць зарэгістраваным, трэба рэгістраваць. Кожнаму грамадзяніну краіны павінны быць прадстаўлены ўсебаковыя магчымасці для рэалізацыі права абіраць і быць абраным», — сказаў Лукашэнка. Ён папярэдзіў, што перадвыбарная агітацыя будзе строга кантралявацца: «Відавочна, што вядзенне перадвыбарнай агітацыі не можа ажыццяўляцца па правілах масавых вулічных акцый. Задача праваахоўных органаў — не дапусціць перарастання перадвыбарных сустрэч у падобныя мерапрыемствы. Правапарадак павінен быць забяспечаны паўсюдна!»

Апазіцыйныя лідары паўгода ламалі дзіды, абмяркоўваючы фармат удзелу ў выбарах. Але ў выніку кожны бок застаўся пры сваім: апазіцыя — раз'яднанай, улада — на ранейшых пазіцыях. Гэтая электаральная кампанія наўрад ці прынясе нешта новае. Таму можна проста заплюшчыць вочы і прыгадваць ранейшыя парламенцкія выбары — вы нічога не прапусціце.

Калі ж нехта захоча ўвязацца ў гульню з шулерам, то варта звярнуць увагу на тэхнічныя моманты. Вылучэнне прадстаўнікоў у склад акруговых выбарчых камісій пройдзе не пазней за 6 ліпеня, а іх стварэнне — не пазней за 9 ліпеня. Участкі для галасавання будуць створаныя да 21 ліпеня. Вылучэнне прадстаўнікоў ва ўчастковыя выбарчыя камісіі пройдзе да 5 жніўня, а сфармаваныя яны мусяць быць не пазней за 8 жніўня. Вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты будзе праходзіць ад 15 ліпеня па 13 жніўня, а іх рэгістрацыя — ад 14 па 23 жніўня. Вылучэнне кандыдатаў у члены Савета Рэспублікі пройдзе з 2 па 31 жніўня, іх абранне — з 6 па 25 верасня. На тэрыторыі Беларусі 110 выбарчых акругаў — па колькасці дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў.

Ёсць яшчэ магчымасць прыняць удзел у больш канструктыўнай дзейнасці — назіранні. Так, грамадзянская кампанія за «Справядлівыя выбары» мае намер вылучыць на парламенцкіх выбарах 23 верасня тысячу прадстаўнікоў у выбарчыя камісіі і дзве тысячы назіральнікаў. На парламенцкіх выбарах будуць і іншыя кампаніі кантролю за іх правядзеннем. «У інтэрнэце будзе весціся кампанія па фіксацыі фактаў парушэнняў, праваабаронцы будуць весці маніторынг выбараў. Наша ж мэта — гэта кампанія актыўнага назірання. Мы будзем не толькі фіксаваць парушэнні, але і спрабаваць паўплываць на практыку правядзення выбараў», — падкрэсліў сустаршыня кампаніі, лідар Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» Сяргей Калякін.

З добрых навінаў і такая: упершыню ў гісторыі парламенцкіх выбараў у Беларусі кандыдаты ў дэпутаты атрымалі права ствараць свой уласны фінансавы фонд. Кандыдат у дэпутаты можа ўнесці ў яго не больш за 20 базавых велічыняў. Фізічная асоба, якая падтрымлівае кандыдата, — не больш за 5 базавых, а юрыдычная — не больш за 10 базавых велічыняў. Але, незалежна ад памераў фонду кандыдата ў дэпутаты, патраціць на кампанію ён можа не больш за сто мільёнаў рублёў. Магчыма, гэтае новаўвядзенне надасць крыху дынамічнасці і яркасці кампаніі. Але вынік галасавання ад гэтага не залежыць. Старыя прынцыпы фармавання выбарчых камісіяў і падліку галасоў даюць магчымасць для абсалютнага кантролю ўладаў за выбарамі і, адпаведна, выдачу любых выніковых лічбаў.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БАРАНАВІЧЫ. ШОСТАЯ ЗАПАР ЗАБАРОНА ПІКЕТА

Грамадскі актывіст Рыгор Грык 18 чэрвеня атрымаў ліст №48 за подпісам намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Дз. Касцюкевіча.



Рыгор Грык

У ім паведамляецца, што Баранавіцкі гарвыканкам, кіруючыся Законам Рэспублікі Беларусь ад 30.12.1997 №114-З «Аб масавых мерапрыемствах» (у рэдакцыі Закона РБ ад 08.11.2011 №308-З), не дае згоды на правядзенне пікета 24 чэрвеня 2012 года ў старым парку горада. Гарвыканкам лічыць, што заяўнік парушыў арт. 6 Закона «Аб масавых мерапрыемствах».

Праўда, якую канкрэтна норму закона парушыў заяўнік, супрацоўнік ідэалагічнага аддзела гарвыканкама Сяргей Пяцігораў традыцыйна адмаўляецца называць.

Рыгор Грык хацеў правесці пікет пад лозунгам «Спыніць рэпрэсіўныя дзеянні ўладаў і чыноўнікаў». Раней мы пісалі, што 8 чэрвеня 2012 года грамадскі актывіст Рыгор Грык атрымаў пісьмовае паведамленне аб тым, што з ім не будзе падоўжаны кантракт 30 чэрвеня. Сам Рыгор Грык лічыць, што яго звальняюць з працы на Баранавіцкім аўтаагрэгатным заводзе за актыўную грамадзянскую пазіцыю і абарону правоў простых рабочых і грамадзян.

Гэта ўжо шосты запар у гэтым годзе пікет грамадскіх актывістаў, які не дазваляе Баранавіцкі гарвыканкам.

**Уладзімір Гундар**

### БАРЫСАЎ. ЛЮДЗІ СУПРАЦЬ ПЕРАНОСУ АЎТАРЫНКУ

Па рашэнні мясцовай улады барысаўскі аўтарынак у кастрычніку бягучага года будзе перанесены з цэнтра горада на ўскраіну.

Індывідуальных прадпрымальнікаў, якія гандлюючь на рынку, у барацьбе за права працаваць на старым месцы падтрымліваюць пакупнікі. Яны паставілі ўжо каля чатырох тысяч подпісаў пад зваротам у Барысаўскі райвыканкам з патрабаваннем не пераносіць аўтарынак.

«Людзі самі падыходзяць і пытаюць, дзе можна падпісацца, каб рынак не пераносілі на ўскраіну горада. Нам таксама вельмі нявыгадны перанос. Мы пару гадоў таму куплялі павільёны — гэта па дзесяць, па пяць тысяч долараў. І цяпер не ўсе могуць іх перанесці на новае месца. Павільёны ў нас амаль усе стацыянарныя. Нам кажуць, што аўтарынак стварае праблемы з паркоўкай, і мясцовым жыхарам таксама ствараем нязручнасці. Але любы гандлёвы цэнтр або рынак — гэта заўсёды праблемы. Мы не хочам пераязджаць. Гэта не выгадна нам, гэта не выгадна пакупнікам!» — расказвае ўладальнік аднаго з павільёнаў Пётр.

Пакуль пытанне аб пераносе барысаўскага аўтарынка застаецца адкрытым. «Мы будзем змагацца за свае працоўныя месцы, — кажуць індывідуальныя прадпрымальнікі. — Тым больш, што адчуваем падтрымку пакупнікоў».

**Паводле spring96.org**

### ГОРКІ. ХАЛАТНАСЦЬ І БЕЗАДКАЗНАСЦЬ

За апошнія месяцы на будоўлях, якія вядуцца да «Дажынак» у Горках, адбылося сем няшчасных выпадкаў, двое з якіх — цяжкія. Начальнік Горацкай міжраённай інспекцыі аховы працы Уладзімір Дзюрыч лічыць, што прыйшоў час біць ва ўсе званы, паведамляе раённая газета «Горацкі веснік».

Па словах Уладзіміра Дзюрыча, на будоўлях квітнее халатнасць і безадказнасць. Няма таго аб'екта, дзе б не было парушэнняў правілаў бяспекі. Паўсюдна людзі працуюць без спецвопраткі, ахоўных касак, страхавачных пасаў, бетоншчыкі з піламі — без акуляраў і ботаў. «Але самае дзіўнае — шасціметровай вышыні лясы стаяць, выбачайце, на слове гонару: дзвюх цаглінах і без якога-небудзь мацавання да сцяны. Калі працоўныя па іх ходзяць, яны разгойдваюцца, нібы арэлі. І гэта на вачах і з дазволу начальнікаў, якія нясуць за іх персанальную адказнасць», — кажа Уладзімір Дзюрыч.

Улады Магілёўскай вобласці рызыкуюць жыццямі людзей дзеля «паказухі» — каб дагадзіць высокаму кіраўніцтву, своечасова падрыхтаваўшы «Дажынкі». Будаўнікі з арганізацый розных раёнаў Магілёўскай вобласці, занятыя на гэтых працах, распавядаюць, што на іх абурэнні з прычыны незабеспячэння неабходных нормаў бяспекі падчас будаўнічых работ кіраўнікі не звяртаюць ніякай увагі.

«На ўсе заўвагі заўсёды чуеш адзін адказ: «Не падабаецца — звальняйся». А сям'ю ж карміць трэба, у Расію я ўжо наездзіўся. Таму вымушаны маўчаць», — кажа адзін з будаўнікоў.

**Паводле spring96.org**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## БЯЛЯЦКІ АТРЫМАЎ ТРЭЦЯЕ СПАГНАННЕ

**Палітвязень, кіраўнік праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі атрымаў у Бабруйскай калоніі трэцяе спагнанне. Адміністрацыя перавяла палітвязня ў разрад «злосных парушальнікаў», паставіўшы пад сумнеў магчымасць прымянення ў адносінах да яго амністыі, што рыхтуецца на 3 ліпеня.**

Першае спагнанне было ў каранціне за нестатутны абутак, другое ён атрымаў за дзень перад спатканнем з жонкай за тое, што ў швачным цэху знаходзіўся без апазнавальнай шыльды-бэджу. А трэцяе — за тое, што спаў у секцыі перад абедам.

У выніку за апошнія парушэнне Алесь Бяляцкі пазбаўлены доўгатэрміновага наступнага спаткання, якое прадугледжанае Крымінальна-выканаўчым кодэксам. Таксама з наступнага месяца ён будзе абмежаваны ў закупах у лаўцы да 100 тысяч рублёў. Цяпер было дазволена купляць на 500 тысяч.

Раней ліст Бяляцкага пра ўціск адміністрацыяй калоніі атрымала ягоная жонка Наталля Пінчук. У ім Алесь паведамляў пра перавод яго ў катэгорыю злосных парушальнікаў.

«Гэта паказвае, што для яго стваецца досыць цяжкая сітуацыя ў маральным і псіхалагічным плане, а скарачэнне грашовых паступленняў б'е па магчымасці набыць дадатковыя прадукты. Гэта будзе ўплываць на стан ягонага здароўя. Што да ягонага фізічнага стану, зразумела, ён не скардзіцца, але сам некаторыя ўскосныя дадзеныя кажуць, што тут у яго не ўсё добра і ягонае здароўе пагаршаецца. А прычэпкі і спагнанні перакрэсліваюць чые б там ні было разлікі на амністыю»,— распавяла Наталля Радыё «Свабода».

Наталля Пінчук адзначае, што сітуацыя з парушэннямі турэмнай дысцыпліны, якая склалася з яе мужам Алесем Бяляцкім, нагадвае сітуацыі з іншымі палітвязнямі.

У катэгорыю «злосных парушальнікаў» трапіў маладафронтавец Эдуард Лобаў, які адбывае пакаранне ў Івацэвіцкай калоніі. На пачатку года ў гэтую ж катэгорыю былі залічаныя вязень Магілёўскай крытай турмы, экскандыдат у прэзідэнты Мікалай Статкевіч і вязень Глыбоцкай калоніі, старшыня «Маладога фронту» Зміцер Дашкевіч.

**Паводле Радыё «Свабода»**

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## МНОЖАЦЦА БЕЛАРУСКІЯ ЦЭНТРЫ

**Створаны беларускі аналітычны цэнтр у замежжы «Беларуская аналітычная майстэрня» пад кіраўніцтвам сацыёлага прафесара Андрэя Вардамацкага.**

Мяркуецца, што аналітычная майстэрня стане не толькі крыніцай навуковых і аналітычных даследаванняў у галіне палітычных, сацыяльных і эканамічных працэсаў, якія праходзяць у Беларусі, але і пляцоўкай беларускіх незалежных даследчыкаў і навукоўцаў, якія апынуліся за межамі Беларусі. Як адзначыў дырэктар майстэрні, менавіта «думка фармуе быццё, сучаснасць і будучыню і без разумення таго, што адбываецца зараз у краіне, будзе немагчыма разумець будучыя працэсы ў краіне».

На прэзентацыі ў Варшаве «Беларускай аналітычнай майстэрні» выступілі беларускі эканаміст Леанід Злотнікаў і палітолаг Павел Усаў, якія пазначылі асноўныя праблемы ў эканамічнай і палітычнай сферах, таксама была дадзена ацэнка той геапалітычнай сітуацыі, у якой знаходзіцца ў сапраўдны момант Беларусь.

Леанід Злотнікаў падкрэсліў, што эканамічнага «беларускага цуду» не існуе, і ніколі не існавала, створаная мадэль была і застаецца вынікам усебаковай падтрымкі з боку Расіі.

Прычыны такой падтрымкі раскрыў у сваім выступе палітолаг Павел Усаў, паказаўшы, што мэтай Расіі з'яўляецца аднаўленне імперыі пад назвай Еўразійскага саюза. Беларусь у планах Масквы займае прыярытэтнае месца, што і тлумачыць эканамічную і палітычную падтрымку рэжыму Лукашэнкі.

**Паводле DELFI.lt**

ПАМЯЦЬ

## БЫВАЙЦЕ, БАРЫС ІГАРАВІЧ…

**Генадзь КЕСНЕР**

**Страшэнная навіна прыйшла 17 чэрвеня. У анкалагічнай клініцы ў Бараўлянах памёр Барыс Звоскаў.**



Цудоўны Чалавек. Праваабаронца. Інтэлігент. Добры Сябра. Яму было толькі 63 гады.

Нешта не тое робіцца ў гэтым свеце. Бог з рэгулярнасцю забірае да сябе лепшых беларусаў. Беларусаў не па нацыянальнасці, а па самаадчуванні, па перадвызначанасці. Барыс Ігаравіч Звоскаў быў рускім па паходжанні, але сапраўдным беларусам па ўсіх астатніх чынніках і прыкметах. Барыс Ігаравіч быў вялікім Чалавекам. І тут не пра постаць гаворка, не пра нейкі яскравы выгляд ці маланкавы тэмперамент. Не. Барыс Ігаравіч быў вельмі простым, сціплым, ад прыроды добрым, і ў той жа час вельмі разумным, адукаваным, харызматычным. Барыс Ігаравіч быў адным з бацькоў-заснавальнікаў праваабарончага руху ў Беларусі, першым прэзідэнтам «Беларускага дому» — Дому правоў чалавека ў Вільнюсе. Ён стварыў грамадскае аб'яднанне «Прававая ініцыятыва», якое займалася і займаецца не гучнымі палітычнымі справамі, але канкрэтнай дапамогай канкрэтным людзям. У прынцыпе, гэтым самым займаюцца ўсе праваабарончыя структуры ў нашай краіне, дзе куды не кінь — паўсюль клін, што да сітуацыі з правамі чалавека на ўсіх узроўнях.

Ён змагаўся з хваробай вельмі доўга і, падавалася, паспяхова. Помню, аднойчы, калі пасля страшэннай худобы ў часе першай стадыі захворвання і працяглага лекавання, пасля пэўнага перапынку, калі я яго не бачыў доўгі час, мы сустрэліся, мяне вельмі ўразіў ясны свет у вачах Ігаравіча — гэта быў зноў жыццярадасны чалавек, які набыў фізічную вагу, здаровы колер твару. Чалавек, які на той момант перамог смерць. Чалавек, якому хацелася жыць, працаваць, шчыраваць, дзейнічаць.

Мне даводзілася шмат сустракацца з Барысам Ігаравічам і ў Мінску, і па-за межамі Беларусі, быць з ім разам на многіх мерапрыемствах з удзелам журналістаў і праваабаронцаў. Магу засведчыць — слухаць Звоскава з закрытым ротам было немагчыма. Кожнае яго слова не было пустым, кожны выраз нёс глыбокі сэнс. Барыс Ігаравіч быў такім чалавекам, які ведаў кошт часу і ведаў кошт іншаму чалавеку. Таму марнаваць каштоўны час і час іншых людзей пустымі словамі Барыс Ігаравіч не мог, не хацеў, дый папросту не ўмеў…

Ён любіў смех, анекдоты і меў фенаменальную памяць. Пры амаль кожнай нашай сустрэчы Барыс Ігаравіч мог узгадаць любы расказаны мною анекдот (хай тое было гадоў дзесяць-пятнаццаць таму!) ці байку датычна канкрэтнай сітуацыі. Ён помніў і цаніў каштоўныя рысы ў людзях, ён не стараўся (ці нават не ўмеў) узгадваць нейкія крыўдныя ці агідныя рэчы. Ён проста быў Чалавекам. І як сапраўдны Чалавек прысвяціў сваё жыццё абароне іншых.

Смерць Барыса Ігаравіча — велізарная страта не толькі для яго родзічаў і сяброў, але і для беларускага праваабарончага руху ды грамадзянскай супольнасці ў цэлым. Нам яшчэ давядзецца ўсвядоміць, каго мы страцілі, каго страціла Беларусь. Вельмі балюча зараз усім, хто ведаў Барыса Ігаравіча.

Вечная Вам памяць, шаноўны наш Чалавек і Настаўнік. Няхай будзе пухам Вам зямля, якая сталася для Вас роднаю, і Валадарства Вам Нябёснае, любы наш Барыс Ігаравіч…

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ЛЯЦЯЦЬ ПЕРАЛЁТНЫЯ ЛЮДЗІ…

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Усе пагодзяцца з тым, што дабрабыт грамадзян асобна ўзятай краіны ацэньваецца не паводле дадзеных афіцыйнай статыстыкі, не па памеры ВУП і нават не па коштах у крамах. Таму што кошты ў крамах могуць быць еўрапейскія, а заробак — на ўзроўні жабрацтва (не будзем паказваць пальцам на краіну). Больш уяўны малюнак узнікае са сведчанняў пра тое, колькі чалавек жадаюць застацца ў краіне, а хто «хоць тушкай, хоць пудзілам» імкнецца адсюль з'ехаць.**

На тыдні мы пра гэта даведаліся з першых вуснаў. «Дакладнай статыстыкай мы не валодаем, але, паводле некаторых звестак, па тым, што даходзіць пэўная статыстычная інфармацыя ад міграцыйных органаў іншых краін за апошнія два гады, можна весці гаворку прыкладна пра 300–400 грамадзян Беларусі, якія ў сілу пэўных прычын просяць статус бежанца ў іншых дзяржавах», — паведаміў 19 чэрвеня начальнік дэпартамента па грамадзянстве і міграцыі МУС Аляксей Бягун.

Калі Бягун не валодае дакладнай статыстыкай, то можна думаць, што «за апошнія два гады» — гэта акурат з падзеяў 19 снежня 2010 года, з прэзідэнцкіх выбараў і масавых рэпрэсій. І гэтую лічбу можна памнажаць у два–тры разы толькі за кошт разнастайных «палітычных». Пры гэтым некаторыя не просяць «статусу бежанца», але ўладкоўваюцца на навучанне і працу — напрыклад, па праграмах кштalту праграмы Каліноўскага. І атрымліваюць від на жыхарства, але не статус бежанца.

Дарэчы, варта адзначыць, што насуперак сцверджанням прапаганды, Беларусь — зусім не прывабная і не гасцінная краіна. Той жа Аляксей Бягун паведаміў, што ў апошнія гады скарачаецца колькасць іншаземцаў і асоб без грамадзянства, якія звяртаюцца да беларускіх уладаў па атрыманне статусу бежанца.

Паводле яго інфармацыі, у 2010 годзе па атрыманне статусу бежанца ў кампетэнтныя органы Беларусі звярнуліся 155 асоб, 140 было адмоўлена, статус бежанца атрымалі сем чалавек, дазвол на часовае пражыванне — шэсць. У выніку — 13, куды падзеліся яшчэ двое, не вядома. У 2011 годзе бежанцамі ў Беларусі выказалі жаданне стаць 85 асоб, адмову атрымалі 53, статус бежанца прадстаўлены 14-ці, яшчэ чатыры атрымалі дазвол на часовае пражыванне. «Зніклі», атрымліваецца, ужо 14 чалавек — мабыць, з'ехалі ў больш гасцінныя месца.

З пачатку 2012 года зарэгістраваныя 22 звароты ў кампетэнтныя органы з хадайніцтвам аб атрыманні статусу бежанца. Усе яны зараз знаходзяцца на разглядзе. Асобы, якія звярнуліся, — прадстаўнікі 16 дзяржаў, у асноўным былых рэспублік СССР. Ёсць таксама выхадцы з афрыканскіх дзяржаў. Бягун паведаміў, што кожны год у прадастаўленні статусу бежанца адмаўляецца прыкладна 85% заяўнікаў. Большасць з іх — каля 70% — карыстаюцца праграмай рэпатрыяцыі ў трэція краіны. Астатнія высылаюцца ў тую краіну, з якой яны прыбылі ў Беларусь.

Вось табе і міф пра «гасціннасць». Калі мы такія добрыя, чаму ж ездзяць не да нас, а ад нас?

Хаця, у прынцыпе, у нас існуюць людзі, якія наўрад ці куды з'едуць. Бо з'язджаюць туды, дзе лепш. А такім людзям альбо і тут хораша, альбо ў лепшыя ўмовы не пушчаюць, каб яны гэтую долю не зрабілі горшай.

Еўрасаюз можа зноў пашырыць спіс афіцыйных прадстаўнікоў Беларусі, у дачыненні да якіх дзейнічаюць санкцыі. Пра гэта заявіў дырэктар дэпартамента па пытаннях Расіі, Усходняга партнёрства, Цэнтральнай Азіі, рэгіянальнага супрацоўніцтва і АБСЕ Еўрапейскай службы знешнепалітычнай дзейнасці Гунар Віганд 18 чэрвеня ў Брусэлі.

«Вызваленне двух палітычных зняволеных (экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава і яго даверанай асобы на выбарах Дзмітрыя Бандарэнкі) не пераваліо мяч на бок ЕС. Мяч застаецца ў Мінску. Мы, верагодна, можам пашырыць колькасць асоб, у дачыненні да якіх дзейнічае забарона на ўезд», — цытуе Віганда брусэльскае выданне «EUobserver».

«EUobserver» паведамляе, што ў спіс таксама можа быць уключаны кіраўнік СП ТАА «Санта-Імпекс Брэст» Аляксандр Машэнскі, «які адыграў важную ролю ў кампаніі Аляксандра Лукашэнкі на прэзідэнцкіх выбарах 2010 года і лічыцца трэцім уплывовым алігархам пасля Пефціева і Чыжа». Адзначаецца таксама, што ЕС увёў эмбарга на пастаўку ў Беларусь узбраенняў, якія могуць выкарыстоўвацца для ўнутраных рэпрэсій.

Віганд лічыць санкцыі эфектыўнымі. «Той факт, што мы працягваем аказваць націск на ўрад, мог спрыяць вызваленню некаторых з 23 палітзняволеных», — сказаў ён.

Але нашая дыпламатыя ўсё ж такі жыве і перамагае. Чарговую «скрышальную перамогу» днямі атрымаў супрацоўнік пастаяннага прадстаўніцтва Беларусі пры ААН у Жэневе Андрэй Таранда ў час прадстаўлення справаздачы спецдакладчыка ААН па свабодзе выказванняў і меркаванняў Франка ля Ру. Канешне ж, перамога была атрыманая на ўзроўні спрэчак «сам дурань», дзе нашы дыпламаты — мастакі вышэйшага ўзроўню.

«Летась наша дэлегацыя акцэнтавала ўвагу спецдакладчыка па свабодзе выказванняў і меркаванняў на яго незбалансаваным падыходзе да ацэнкі сітуацыі ў краінах свету, — сказаў Таранда. — У леташнім дакладзе спецдакладчык закрануў 70 краін, з якіх былі тры краіны Еўрапейскага саюза. У сёлетнім дакладзе мы бачым тую ж карціну: з 39 краін, якія трапілі ў поле зроку спецдакладчыка, з еўрапейскіх краін згаданая толькі Іспанія. Складваецца ўражанне, што спецыяльны дакладчык наўмысна не ўзнімае праблемы ў заходніх краінах».

У сувязі з гэтым прадстаўнік Беларусі задаў спецдакладчыку шэраг пытанняў. У прыватнасці, Таранда пацікавіўся, ці ведае Франк ля Ру пра сітуацыю з пераследаваннем Джуліяна Асанжа, заснавальніка партала Weakyleaks. «Ці ведаеце вы, што ўлады Швецыі, не выставіўшы журналісту абвінавачанняў, выдалі еўрапейскі ордэр на яго арышт? У вас, як у спецдакладчыка, не ўзнікла думкі, што пераслед Асанжа можа быць палітычна матываваным, паколькі гэты пераслед пачаўся адразу пасля таго, як заснаваны ім партал размясціў рэзанансныя матэрыялы, якія маюць дачыненне да знешнепалітычнай дзейнасці ЗША і шэрагу іншых краін? Вы накіравалі запыты па гэтай справе ўладам ЗША, Швецыі і Вялікабрытаніі? Ці маеце намер наогул рэагаваць па гэтай справе і калі?» — спытаў прадстаўнік Беларусі.

Ён таксама пацікавіўся, чаму спецдакладчык не ўзнімае пытанні «наконт сітуацыі са свабодай выказванняў і меркаванняў у інтэрнэце ў шэрагу краін ЕС, калі ёсць факты крымінальнага пераследу грамадзян за выкарыстанне сацыяльных сетак і ажыццяўляецца перахоп электроннай карэспандэнцыі грамадзян».

Таранда папрасіў спецдакладчыка пракаментаваць сітуацыю «з заканапраектамі ЗША, якія пад маркай барацьбы з парушэннямі аўтарскіх правоў у інтэрнэце дазваляюць ураду і карпарацыям блакаваць сайты без якога-небудзь судовага разбору».

Падобна на тое, што ніхто не вучыў беларускага дыпламата: парушэнне правоў чалавека ў іншых краінах зусім не апраўдвае парушэння правоў чалавека ў тваёй. Гэта ўсё роўна, каб злачынца сказаў: «Вось той учыніў яшчэ больш злачынстваў, таму я невінаваты». Так што і Таранда пралятае над Жэневай.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### СЯРГЕЙ МАРЦАЛЕЎ



Былы кіраўнік выбарчага штаба Мікалая Статкевіча прапануе апазіцыйным палітыкам прайсці праверку на дэтэктары хлусні. Сяргей Марцалеў заявіў, што лідары апазіцыі, фігуранты крымінальных спраў па падзеях 19 снежня 2010 года, «у той ці іншай ступені маюць намер прыняць удзел у парламенцкай выбарчай кампаніі». «Аднак фігурантаў гэтай справы часта падазравалі ў тым, што яны пад ціскам пагадзіліся супрацоўнічаць са спецслужбамі. Алею ў агонь падлілі і факты напісання некаторымі палітыкамі пакаянных лістоў прэзідэнту, і выпадак з экс-кандыдатам у прэзідэнты Алесем Міхалевічам, які публічна прызнаўся ў тым, што яго выпусцілі ў абмен на абяцанне супрацоўніцтва з КДБ. Зыходзячы з гэтага, палітыкі загаварылі пра «фракцыю генерала Зайцава» (старшыні КДБ) у апазіцыі», — патлумачыў Марцалеў.

Гэта прывяло да таго, што лідары апазіцыі адзін аднаму не давяраюць, а самі спецслужбы ўсяляк культывуюць чуткі пра вярбоўку, тым самым узмацняючы гэта недавер.

«Таму я прапаную фігурантам крымінальнай справы па падзеях 19 снежня, а таксама лідарам апазіцыі і ключавым асобам у парламенцкай кампаніі прайсці праверку на дэтэктары хлусні. Яны павінны пацвердзіць, што не супрацоўнічаюць ні з беларускімі, ні з замежнымі спецслужбамі. З аднаго боку, гэта верне давер сярод лідараў апазіцыі, з другога — не дасць магчымасці дзяржаўным тэлеканалам казаць, што апазіцыянеры з'яўляюцца «пятай калонай», «агентамі ўплыву» і супрацоўнікамі замежных спецслужбаў», — мяркуе Сяргей Марцалеў. Ён заявіў, што гатовы першым прайсці такую праверку, а кантраляваць яе прапануе незалежным СМІ.

### МІХАІЛ АЎДЗЕЕЎ



30-гадовы беларускі штангіст Міхаіл Аўдзееў, які ў красавіку стаў бронзавым прызёрам чэмпіянату Еўропы–2012 у вагавой катэгорыі да 105 кілаграмаў, дыскваліфікаваны на 4 гады за ўжыванне допінгу, пішуць naviny.by. Афіцыйны сайт Міжнароднай федэрацыі цяжкай атлетыкі інфармуе, што тэрмін дыскваліфікацыі Міхаіла Аўдзеева працягнецца ад 14 красавіка 2012 года па 14 красавіка 2016-га. Пасля дыскваліфікацыі беларуса бронзавая ўзнагарода пяройдзе да 23-гадовага Сяргея Тагірова з Украіны, які заняў 4-е месца.

У арганізме Міхаіла Аўдзеева быў знойдзены балдзенон — сінтэтычны стэроідны ін'екцыйны прэпарат, вытворны мужчынскага палавога гармону тэстастэрону. Ужываецца ў ветэрынарыі, дзе выкарыстоўваецца для кароў, коней і сабак, а таксама ў бодзібілдынгу.

Галоўны трэнер зборнай Беларусі па цяжкай атлетыцы Аляксандр Ганчароў сказаў, што перад ад'ездам на чэмпіянат Еўропы ўсё спартсмены прайшлі праверку на наяўнасць у арганізме забароненых прэпаратаў.

— Ні лекар, ні трэнер гэты прэпарат спартсмену не давалі. Як забароненае рэчыва патрапіла ў арганізм? Магчыма, гэта ведае сам Аўдзееў, але ён прымяненне допінгу адмаўляе. Чатырохгадовая ж дыскваліфікацыя Міхаіла Аўдзеева, якому цяпер ужо 30, напэўна азначае заканчэнне кар'еры спартсмена, — растлумачыў Аляксандр Ганчароў.

Беларускі цяжкаатлетычны саюз з-за гэтага допінг-скандалу будзе аштрафаваны на 5,5 тысячы долараў.

### АНДРЭЙ ХАРКАВЕЦ



Можна канстатаваць вернасць прынятых у Беларусі інструментаў макраэканамічнай стабілізацыі, пра гэта заявіў міністр фінансаў Беларусі Андрэй Харкавец. Ён адзначыў, што выкананне рэспубліканскага бюджэту ў 2011 годзе праходзіла ва ўмовах нераўнамернага эканамічнага развіцця. Асноўнымі стрымліваючымі фактарамі з'явіліся высокая інтэнсіўнасць інфляцыйных працэсаў, доўгая нестабільнасць валютнага рынку, дэвальвацыя нацыянальнай валюты, нізкі аб'ём прыцягнення прамых замежных інвестыцый, рост знешняга доўгу. «Нягледзячы на складаную макраэканамічную сітуацыю, ураду ўдалося выканаць бюджэт з прафіцытам, забяспечыць належную абарону грамадзян ад наступстваў валютнага крызісу і не дапусціць пачатку банкаўскага крызісу ў краіне, захаваць, што вельмі важна, якасць аказваемых бюджэтных паслуг і рэалізаваць, хоць і ў скарочаным выглядзе, прыярытэтныя дзяржаўныя праграмы», — адзначыў Андрэй Харкавец.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ТУРЭМНЫ МАНІТОРЫНГ

Генадзь КЕСНЕР

**Інфармацыйна-асветніцкая ўстанова «Платформа» прадставіла ў Мінску «маніторынгавую справаздачу аб праблемах у галіне ўмоваў утрымання зняволеных у пенітэнцыярных установах Рэспублікі Беларусь». Арганізатары прэзентацыі запрашалі на яе не толькі журналістаў, але і прадстаўнікоў Міністэрства ўнутраных спраў, Дэпартамента выканання пакаранняў, а таксама Генеральнай пракуратуры. Але ніводная асоба з дзяржаўных установаў на прэзентацыя не з’явілася.**



Андрэй Бандарэнка, Мікіта Ліхавід і Павел Сапелка

Па словах дырэктара «Платформы» Андрэя Бандарэнкі, адной з прычынаў узнікнення гэтай арганізацыі сталася тое, што праваабаронцам быў закрыты доступ да ўстановаў пенітэнцыярнай сістэмы Беларусі.

«Летась мы заявілі пра жорсткія катаванні ў Івацэвіцкай і Глыбоцкай калоніях, дзе зняволеныя заяўлялі пра жорсткія збіцці, прычым такім чынам, што адміністрацыя калоніяў была вымушана вывезці асуджаных у гарадскія шпіталі, дзе ім зрабілі аперацыі. Тым не менш, пракуратура пасля «праверкі» заявіла нам, што прыведзеныя намі факты не ўстаноўленыя, — адзначыў праваабаронца. — Сёння многія з тых, хто не па сваёй волі прымаў удзел у тых падзеях, ужо выходзяць на волю, мы з імі сустракаемся, і яны прыводзяць прычыны, чаму была прадстаўлена менавіта такая справаздача пракуратуры. У прыватнасці, калі казалася, што той ці іншы зняволены адмаўляўся пацвярджаць гэтыя факты, высветлілася, што вязні не тое што не адмаўляліся, але нават настойвалі на тым, каб даваць такія паказанні, але справаздачы былі такімі, што быццам ніхто нікога не збіваў. Іншыя асуджаныя казалі пра ціск на іх і пра тое, што іх вымусілі адмовіцца ад уласных словаў».

На вялікі жаль, адзначыў Андрэй Бандарэнка, любы зварот праваабаронцаў у пракуратуру ці іншыя наглядныя органы завяршаўся тым, што прыходзілі трохчытарохрадковыя адпіскі, маўляў, праверка праведзена і нічога не пацвердзілася. «Мы зрабілі выснову, што пракуратура і іншыя наглядныя органы ператварыліся ў пэўную фармальнасць, яны нават не ў стане рэагаваць на тую ці іншую праблему, — падкрэсліў дырэктар «Платформы». — Таму ў Жэневе на прэс-канферэнцыі мы заявілі пра неабходнасць увядзення ў Беларусі мандата краінавага спецдакладчыка, паколькі некаторыя выпадкі здзекаў са зняволеных вельмі цяжка даказаць. Да таго ж, для дасягнення сваіх мэтаў дзяржава выкарыстоўвае Крымінальны кодэкс, Крымінальна-працэсуальны кодэкс, фальсіфікуюць тыя ці іншыя артыкулы. Пасля ўзмацнення ціску на адвакатаў асуджаныя фактычна застаюцца без усялякай абароны і без магчымасці абараніць сябе нават уласнымі высілкамі».

Вязнямі следчага ізалятара №1 у Мінску адзначаліся грубыя парушэнні санітарна-эпідэміялагічных нормаў умоваў утрымання, антысанітарныя ўмовы, кепская медычная дапамога, перавышэнне ў два-тры разы колькасці вязняў на адзін квадратны метр. У СІЗА №8 горада Жодзіна адзначалася жорсткае абыходжанне са зняволенымі, а таксама наяўнасць «прэс-хатаў», дзе вязняў прымушалі да дачы прызнальных паказанняў. Некаторыя зняволеныя паказалі, што іх збівалі супрацоўнікі турмы. Вязні адзначаюць і тое, што адміністрацыі калоніяў перашкаджаюць ім у атрыманні карэспандэнцыяў, у накіраванні скаргаў на дзеянні адміністрацыі, незаконна выкарыстоўваюць розныя спагнанні з наступным накіраваннем зняволеных у штрафныя ізалятары. Шэраг зняволеных паказалі пра жорсткае абыходжанне з імі ў ШЫЗА і памяшканнях камернага тыпу (ПКТ). Дарэчы, практычна ўсе камеры ШЫЗА не адпавядаюць санітарна-эпідэміялагічным нормам, таму там адзначаюцца ўспышкі захворванняў на сухоты.

У некаторых калоніях (у ПК–2 у Бабруйску, у ПК–20 у Мазыры ды іншых) адзначаюцца выпадкі вымагання грашовых сродкаў у зняволеных або іх родзічаў пад нагодаю прымянення амністыі ці ўмоўнадатэрміновага вызвалення.

Кіраўнік «Платформы» звярнуў асаблівую ўвагу на вялікую колькасць скаргаў зняволеных на незаконнае прымяненне артыкула 411 Крымінальнага кодэкса «Злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы, выконваючай пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі». «Гэта нонсенс, калі чалавек, што па тых ці іншых прычынах адмаўляецца ад нейкіх сваіх грамадскіх абавязкаў падчас адбыцця пакарання, апынаецца асуджаным па крымінальным артыкуле. Напрыклад, калі ў вас два ці тры разы не зашпілены гузік, то вас могуць асудзіць і дадаць вам яшчэ тэрмін зняволення да таго, што вы ўжо маеце. Гэта па сваёй сутнасці — абсурд!» — заявіў Андрэй Бандарэнка.

Нядаўні палітзняволены Мікіта Ліхавід асобна засяродзіўся на парушэнні правоў у дачыненні да палітвязняў. Усім палітзняволеным, насуперак заканадаўству, абмежавана права на перапіску, на сустрэчы з адвакатамі, на размовы і кантакты з іншымі зняволенымі. Напрыклад, кіраўнік зачыненага ўладамі Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі пазбаўлены магчымасці кантактаў з іншымі вязнямі. Тыя з іх, хто ідзе на кантакт з апальным праваабаронцам, падпадаюць пад спагнанні за любыя кантакты з Бяляцкім. Пастаянны ціск з боку адміністрацыі папраўчай установы, па словах Мікіты Ліхавіда, аказваецца і на лідара зарэгістраванага ў Чэхіі «Маладога фронту» Змітра Дашкевіча, на анархіста Яўгена Васьковіча. Сур’ёзную трывогу выклікае сітуацыя з экс-кандыдатам у прэзідэнты Беларусі, палітзняволеным Мікалаем Статкевічам, якога па надуманых прычынах перавялі ў турму строгага рэжыму №4 у Магілёве. «Варта адзначыць, што ў камеру да Мікалая Статкевіча перавялі ўдзельніка «эскадрона смерці» Андрэя Васільева», — паведаміў Ліхавід.

Многія палітвязні апошнім часам паводле артыкула 117 атрымалі статус «злоснага парушальніка». Гэта тычыцца і Статкевіча, і Дашкевіча, а таксама маладафронтаўца Эдуарда Лобава, якому вынеслі некалькі вымоваў у калоніі, дзе ён адбывае чатыры гады зняволення.

Праваабаронца Павел Сапелка, які пазбавіўся прафесіі пасля ўдзелу ў якасці адваката ў гучных палітычных працэсах, нагадаў прысутным, што падобны маніторынг у 2008 годзе ладзіўся ПЦ «Вясна» разам з Міжнароднай федэрацыяй правоў чалавека, віцэ-прэзідэнтам якой з’яўляецца Алесь Бяляцкі. «Мы бачым, што сітуацыя з правамі зняволеных ад таго часу практычна не змянілася. Парушэнні як былі, так і засталіся, таму мы вітаем ініцыятыву «Платформы», — заявіў Павел Сапелка.

Напрыканцы прэзентацыі яе ўдзельнікі ўшанавалі хвілінаю жалобнага маўчання памяць вядомага ў Беларусі і за яе межамі праваабаронцы, заснавальніка арганізацыі «Прававая ініцыятыва» і першага прэзідэнта Беларускага дому правоў чалавека (Вільнюс) Барыса Звоскава.

СПРАВА

# ТОПЧУЦЬ ЗАКОН

Вольга ХВОІН

**Генеральная пракуратура Беларусі непісьменная і раўнадушная да матэрыяльнага дабрабыту грамадзян краіны, — сцвярджае чытач НЧ Андрэй Мініч. Спадар Мініч працуе ў сілавых органах і добра знаёмы з заканадаўствам краіны. Таму адпіскі на яго звароты ад вышэйшых службовых асобаў з прыдуманымі фармулёўкамі «не пракатваюць». А патрапіўся б не надта дасведчаны грамадзянін — паверыў бы ў міфы Генпракуратуры!**

Гісторыя пра тое, як Генпракуратура Беларусі села ў калюжыну, пачалася з банальнага: Андрэй Мініч падаў зварот з просьбай разгледзець пастанову Міністэрства эканомікі аб падвышэнні цэнаў на харчовыя тавары на прадмет парушэння правоў грамадзян. Маўляў, гэтая пастанова вядзе беларускі народ да галечы.

Генеральная пракуратура разгледзела зварот спадара Андрэя Мініча па пытанню пратэсту на пастанову Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь ад 8 мая 2012 года № 41 «Аб унясенні дапаўненняў і зменаў у пастанову Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь ад 26 красавіка 2012 года № 35», якой былі змененыя максімальныя адпускныя цэны на шэраг харчовых тавараў. І прыйшла да высновы, што «ў звароце няма якіх-небудзь звестак аб парушэнні законнасці. У такіх абставінах падстаў для прымянення мераў пракурорскага рэагавання няма». Але спаслалася на часткі 4 і 6 артыкула 141 Крымінальна-выканаўчага кодэксу, якія быццам бы гарантуюць права паўторнага звароту да нагляду. Казус у тым, што ў гэтым кодэксе Беларусі ў артыкуле 141 «Прыпыненне выканання рашэння ў сувязі з падачаю скаргі» няма ні часткі 4, ні часткі 6, на якую спаслаўся намеснік генпракурора А. К. Стук.

Відаць, спадар Стук чытаў «Пінскую шляхту» ды ўзяў на ўзбраенне прыём Кручкова, які прамаўляў: «*Не магу, не магу! Знаеш, па всеміласцівейшаму ўказу нашага гасудара 1881 года, сенцября 75-га дня какой вялікі адказ за паблажку сторанам в угаловнам прэступленії?! Не толькі пасаду магу страціць, но і лічнасць падвергнется опасносці*».

Андрэй Мініч, абураны такой нахабнасцю, падаў скаргу на дзеянні работнікаў Генеральнай пракуратуры ажно ў Савет бяспекі Рэспублікі Беларусь. Там скаргу разгледзелі і адправілі яе на разгляд у... Генеральную пракуратуру, «якая праінфармуе вас пра вынікі».

— Як грамадзянін дзяржавы я звярнуўся ў Генпракуратуру і атрымаў адтуль адказ-адпіску за подпісам намесніка генпракурора А. К. Стука, які спасылаецца на міфічныя часткі артыкула. Гэта сведчыць пра непісьменнасць супрацоўнікаў Генпракуратуры, а таксама пра іх бяздушша і нежаданне разабрацца ў праблемах простых грамадзян краіны. Гэты факт быў мне надзвычай непрыемны, бо я звярнуўся ў вышэйшы наглядны орган Рэспублікі Беларусь», — абураецца Андрэй Мініч. Ён падкрэслівае, што хаця сам і працуе ў «органах», гэта ніяк не перашкаджае абараняць свае правы: «Артыкул 60 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь дазваляе незалежна ад прафесійнай прыналежнасці кожнаму грамадзяніну звяртацца ў дзяржаўныя органы з абгрунтаванымі прэтэнзіямі і скаргамі».



http://pensne.na.by

«Пінская шляхта»

З Андрэем Мінічам паспрабавалі пафантазіраваць на тэму, «а што, калі б ўсе грамадзяне былі так добра юрыдычна падкаваныя». Лірыкі не атрымалася.

— Рэспубліка Беларусь — унітарная, прававая, дэмакратычная дзяржава. І службовыя асобы абавязаны выконваць законы дзяржавы, абараняць правы і законныя інтарэсы грамадзян, разглядаць заявы па сутнасці, а не дасылаць адпіскі.

Калегі і сябры цалкам мяне падтрымліваюць. У маіх зваротах няма прыкметаў парушэння закону. Тым больш як чалавек з юрыдычнай адукацыяй я падкрэсліваю, што халатныя дзеянні службовых асобаў не мусяць паўтарацца ў дачыненні да ўсіх грамадзян, гэтая справа не тычыцца выключна мяне. Мой пункт гледзішча абгрунтаваны, а прэтэнзіі цалкам рэзонныя. Апісаная сітуацыя прадэманстравала непрафесійную працу вышэйшых службовых асобаў. Дзяржаўныя органы плююць на закон і топчуць яго, што ў дэмакратычным грамадстве абсалютна недапушчальна, — рэзюмуе спадар Мініч пасля перапіскі з Генеральнай пракуратурай Беларусі.

ПРАВААБАРОНЦЫ

# Ядвіга Волчак: Я ХАЧУ ПАГЛЯДЗЕЦЬ У ВОЧЫ ТЫМ, ХТО КІНУЎ МАЙГО СЫНА ЗА КРАТЫ

Генадзь КЕСНЕР



Алег Волчак з маці на здымках фільма «Дасціш фантасціш»

**Вядомы ў Беларусі і за яе межамі праваабаронца, старшыня зарэгістраванай у Кіеве (Украіна) праваабарончай арганізацыі «Прававая дапамога насельніцтву», ветэран вайны ў Афганістане Алег Воўчак толькі ў бягучым годзе двойчы апынаўся ў сумна вядомым Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў на мінскай вуліцы Акрэсціна. Юрыста, былога следчага пракуратуры абвінавачвалі ў дробным хуліганстве (вельмі папулярны ў «праваахоўнікаў» артыкул 17.1 КаАП) за тое, што ён нібыта брудна і гучна лаяўся ў грамадскіх месцах. Сведкамі абвінавачання на судах выступалі супрацоўнікі міліцыі.**

Гэта ўжо сумная традыцыя тутэйшых праваахоўных органаў, якія хапаюць вядомых асобаў і інкрымінуюць ім непрыстойныя паводзіны. За апошнія гады ў шэрагу «публічных брыдкасловаў», апрач Алега Волчака, апынуліся такія глыбока інтэлігентныя людзі, як мастак Аляксей Марачкін, журналіст Андрэй Дынько, навуковец, прафесар і дырэктар Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў Аляксей Пікулік, грамадскі дзеяч Вячаслаў Сіўчык, а таксама шматлікія актывісты дэмакратычнага руху Беларусі. Ці мог Алег Воўчак нават тэарэтычна зрабіць тое, у чым яго абвінавацілі і за што пасадзілі спачатку на 4, а потым і на 9 сутак? Найлепш на гэтае пытанне можа адказаць, бадай, маці праваабаронцы Ядвіга Антонаўна, якая пагадзілася пагутарыць з карэспандэнтам «Новага часу».

***— Ядвіга Антонаўна, як вы асабіста ставіцеся да таго, чым займаецца ваш сын Алег?***

— Шчыра кажучы, калі ён працаваў у пракуратуры, мне гэта падабалася больш. Яго ніхто не чапаў, было больш павагі. А зараз да яго чапляюцца з нагоды і без яе.

***— Як вы думаеце, за што ўсё ж такі затрымліваюць вашага сына? Бо толькі сёлета ён ужо двойчы апынаўся ў акрэсцінскай вязніцы?***

— А вось гэтага я і не разумею. Мне падаецца, што тут ёсць нейкі замоўнік. Мне хацелася б ведаць, хто гэта такі, і што ім увогуле трэба ад Алега. Ён сумленна адслужыў у войску. Вы разумееце, калі ён вярнуўся з арміі, начальнік, які адказвае за парадак у горадзе, адразу пачаў яму тэлефанаваць і запрашаць на працу. Некалькі разоў тэлефанаваў, але сын адмаўляўся. Тады той сказаў: прыедзь хоць пагладзі, як і што тут робіцца. Алег паехаў, а потым распавёў: усё тое ж самае, што і на мяжы, тыя ж нарады даюць. Алег сказаў, што не хоча апранаць міліцэйскую форму. Алег паступіў на падрыхтоўчыя курсы ва ўніверсітэт. Праз год, як скончыў, той жа начальнік зноў патэлефанаваў, але сын зноўку адмовіўся. Тады яны пачалі званіць мне, маўляў, пераканайце яго. Яго запрашалі працаваць і ў КДБ. Калі ва ўніверсітэце заставалася яшчэ шэсць месяцаў для практыкі і абароны дыплома, ён прыйшоў на практыку ў Фрунзенскую раённую пракуратуру. Там яго адразу афармілі на працу старшым следчым. Ужо пасля заканчэння БДУ ў пракуратуру зноў прыйшлі з КДБ і зноў клікалі яго на працу туды, але сын цвёрда вырашыў застацца працаваць у пракуратуры. Ён вельмі плённа працаваў у пракуратуры, ён раскрыў чатыры замоўныя забойствы. Алег быў там на вельмі добрым рахунку, і не прайшло і два гады, як яму далі званне лейтэнанта, потым старшага лейтэнанта, і ў пракуратуры ўсе здзіўляліся, бо ніколі такога не было, каб за два гады два разы чалавека павышалі ў званні. Звычайна, для такога было патрэбна часу ў два разы больш.

Калі ён ішоў у дэпутаты Мінскага гарадскога савета, за яго тут усе падпісваліся. Калі многія мае знаёмыя даведваліся, што гэта мой сын, яны адразу падпісваліся за яго. Мне не вельмі падабалася, што ён выступаў супраць некаторых чыноўнікаў. Скончылася тым, што ён па сваім жаданні сышоў з пракуратуры і пайшоў у праваабарончую арганізацыю.

***— Сёння Алег узначальвае арганізацыю «Прававая дапамога насельніцтву». Як вы ставіцеся да гэтай дзейнасці сына, да таго, што ён вырашыў прысвяціць сябе дапамозе іншым людзям?***

— Канешне, гэта вельмі добра, што ён дапамагае людзям. Людзі ўдзячныя яму, звоняць, пішуць, але мяне вельмі клапоціць, што ўлады ставяцца да яго па-іншаму. Не ведаю, за што, ён жа вельмі сумленна і шчыра паўсюль працаваў. Раней ніхто ніколі не меў да яго прэтэнзіяў, усё было выдатна.

Дарэчы, калі ён быў школьнікам, ён займаўся на мінскай дзіцячай чыгунцы, ён хацеў быць машыністам, у яго і там былі толькі выдатныя адзнакі. Пасля восьмага класа падаў дакументы ў вучэльню на машыніста, і там добра вучыўся, гэтаксама, як і ў дзённай школе атрымліваў добрыя адзнакі. Да таго ж, ён займаўся байдарачным спортам, меў першы разрад, мог атрымаць і кандыдата ў майстры спорту, але не паспеў.

Споўнілася 18 гадоў, забралі ў войска. На афганскай мяжы, дзе ён служыў, пра яго таксама вельмі добра ўсе адгукаліся, ягоны камандзір, у якога нарадзілася дачка, нават узяў Алега сабе за кума, і гэтаму таксама ўсе здзіўляліся. «Зампаліт» нават даваў Алегу чытаць лекцыі іншым салдатам, і тыя не маглі паверыць, што Алег нічога не заканчваў. Я вельмі напалохалася, калі Алега заслалі на тэрыторыю Афганістана, і ад яго доўга не было лістоў. Я абівала парогі ваенкаматаў, слала тэлеграмы. А потым аднойчы адчыняю паштовую скрыню, а адтуль вываліўся цэлы стос лістоў ад Алега. Вельмі страшная там была гэтая вайна. І ў дзяцінстве, і пазней Алег заўсёды быў наперадзе.

***— І вось толькі сёлета Алега ўжо двойчы вінавацілі ў тым, што ён лаяўся матам у грамадскім месцы. Вы ўвогуле можаце сабе ўявіць, каб ваш сын брыдкасловіў?***

— Я нават не хачу пра гэта чуць! Вельмі шкада, што я не была на судзе. Ён жыў у сям'і, дзе ніколі не было чуваць ніводнага грубага слова. Я заўсёды баялася пры ім сказаць нешта кепскае. Ён ніколі не чуў ніякіх мацюкоў, нічога падобнага. Я ніколі не паверу, каб ён мог лаяцца. Прычым на вуліцы, размахваючы рукамі. Дык чаму яны не прадставілі простых сведак, якія б паказалі, што ўсё было менавіта так? Атрымліваецца, што ён ішоў і лаяўся сам з сабою? Гэта поўная хлусня. І караць трэба таго, хто гэтую хлусню выдумаў, бо з-за гэтай хлусні чалавек апынуўся на «сутках». Я б вельмі хацела пагаядзець гэтаму чалавеку ў вочы. Але мне падаецца, што пакуль будзе цяперашняя ўлада, усё застанецца па-ранейшаму, нічога не зменіцца. Вось ідзеш па вуліцы — колькі маладзёнаў, ды не толькі, лаюцца ў голас матам, і ніхто іх не чапае. Ці ў парку ля возера, куды мы ходзім гуляць, — некаторыя лаюцца матам на ўвесь парк, але міліцыя праходзіць міма і нікога не чапае, як быццам нічога не адбываецца. Затое да такіх людзей, як Алег, стаўленне зусім іншае.

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

## ЁН СЫДЗЕ РАЗАМ З НАМІ?

**На думку былога амбасадара Украіны ў Беларусі Рамана Бяссмертнага, выказаную ў апошнім нумары часопіса «Краіна», пасля таго, як не стане Лукашэнкі, Беларусь вельмі хутка далучыцца да еўрапейскай супольнасці.**



Гэта адбудзецца таму, як патлумачыў дыпламат, што «беларусы на ўсё, што скажа ўлада, адказваюць «так», украінцы — «не», рускія маўчаць». З гэтакіх знешніх назіранняў ён робіць прынцыповыя высновы, што ва Украіне больш унутраных супярэчлівасцяў, але і большая прастора для свабоды. Насуперак таму, што для ўкраінцаў адзінае правіла — гульня без правіл, беларусы, здольныя гуляць па правілах, з'яўляюцца і большымі еўрапейцамі. Таму, падводзіць вынік спадар Раман, пасля Лукашэнкі Беларусь вельмі хутка стане еўрапейскім грамадствам.

Для ілюстрацыі нацыянальных асаблівасцей Бяссмертны ўзяў за прыклад рэйтынг Лукашэнкі, які да 19 снежня складаў болей за 40%, а зараз, пасля 18 гадоў кіраўніцтва, скаціўся да небывала нізкага ўзроўню ў 20%. Ва Украіне, заўважыў дыпламат, такі рэйтынг цяжка ўтрымаць ужо пасля двух гадоў прэзідэнцтва.

Узнікае пытанне, як ставіцца да гэтых выказванняў вельмі добразычлівага да беларусаў былога ўкраінскага амбасадара. Мусіць, па-добраму пазайздросціць, што лёгка, без розных маральных ды іншых ваганняў меў магчымасць пакінуць краіну, у якой прэзідэнт трымае 20-працэнтны рэйтынг незалежна ад таго, што робіць дзесяцігоддзямі, ды вярнуцца на радзіму. Беларус таксама мае магчымасць з'ехаць ад гэтага ўсюднага вертыкальнага кіравання куды вочы глядзяць, але гэта зусім іншы выбар. Для многіх ён вызначаны неабходнасцю пакінуць пасля сябе адны галавешкі, да якіх немагчыма будзе вярнуцца.

Проста з'ехаць і прыехаць не выпадае, бо жыццё чалавечае ўвогуле кароткае, а дарослае і свядомае — кароткае зусім. І таму адны блюзнераць (узгадаем песню, якую афіцыйныя СМІ перад прэзідэнцкімі выбарамі пераўтварылі амаль што ў гімн), што Саша застанецца з намі, а іншым не застаецца нічога, як пасыпаць галаву попелам: Саша сыдзе разам з намі. З тым пакаленнем, якое пасля краху камунізму абірала сваю будучыню. І абрала ў асобе дырэктара саўгаса.

Увогуле, цяпер ужо цяжка зразумець, хто гэтую будучыню абіраў, бо людзі сталага веку, якім у большасці падабаўся той хлопец, даўно ўжо сышлі ў лепшы свет. Ці доўжаць нуднае жыццё ў хворых ды незаможных пенсіянерах. Лічаць грашовую драбязу на сацыяльны кефір.

Зараз паўсюдна чуваць: гэты за яго не галасаваў, той — не галасаваў, а тыя — толькі напачатку, аднойчы. Ды што зробіш — зараз дзейнічае закон вялікіх лічбаў. Гэта калі ўсіх лічаць разам, і не тады, калі яны нешта робяць, а напярэдадні дзеяння, калі вызначаецца, колькі павінна быць такіх і не такіх. Дзейна віртуальных і вертуальна бяздзейных.

Як слушна зазначыў Міхась Залескі, жывем у краіне пераможнага піяру. Тут уладнае слова сказанае, мільённа агучанае — справа больш рэальная, чымсьці сама справа, пра якую ўсе маўчаць, бо гаварыць забаронена. А ў адзінак, як адзначаў некалі паэт-гарлапан, голас танчэй піску. Ён прападае ў велізарным многагалоссі сказанага па загаду ўлады «так».

Некалі ў Маскве ў прыватнай гутарцы пачуў заўвагі, вельмі падобныя на разважанні спадара Бяссмертнага. Адзін з міністэрскіх кіраўнікоў сярэдняга звяна рабіў параўнальную характарыстыку стаўлення да міністэрскіх загадаў падначаленых з розных рэспублік. На яго думку, беларусы на кожны запыт дасылалі падрабязную справаздачу з разлікамі і схемамі і пыталіся, ці патрэбна што-небудзь яшчэ. Астатнія або маўчалі, як рускія, ці адмаўляліся адказваць, як украінцы, ці спасылаліся на адвечнае «мая твая не панімай». Ці дасылалі ў адказ нешта на літоўскай, латышскай або эстонскай мове без перакладу на рускую.

Калі ўкраінскі дыпламат, разважаючы аб ментальнасці ўласнага народа, піша, што ўкраінцы «ёсць нечым анархічным: ва Украіне ёсць свабода, але няма парадку», ён падкрэслівае, што «гэта нельга даследаваць, але можна адчуць, калі працяглы час жыць за межамі краіны». Падаецца, што ён мае рацыю і наконт беларусаў, бо працяглы час жыў побач з імі, у прынцыпова аднатыпным сацыяльным асяроддзі, дзе грамадства адказвала «так» на кожны загад уладаў. Па вялікім рахунку, гэта цудоўная рыса, прыдатная для дэмакратычных сістэм, ці, як іранічна жартуюць палітолагі, «дэмакратур». Але там патрабаванням падпарадкоўваюцца ўсе ў роўнай ступені, пачынаючы ад прэзідэнта і канцлера. У нас жа пад шыльдай парадку баль правіць самадурства. У тым класічным сэнсе, калі я начальнік, то ты дурань, і наадварот. А з гэтага, па логіцы, вынікае, што самы галоўны начальнік сам сабе і галоўны дурань.

Магчыма, такія з'явы не паддаюцца даследаванню, але ж яны складаюць прадмет паўсядзённага досведу, што, як той казаў, даюцца нам у адчуваннях.

Тое пакаленне, якое ў асобе самівядаецекага прыйшло да ўлады, ужо зрабіла ўсё, што магло, хаця і не тое, што хацела. Адзін ён усё яшчэ носіцца з клюшкай па жыцці, быццам хакейны юніёр, які лічыць, што з яе дапамогай можна зрабіць усё, што захочаш.

Няўжо ніхто не падкажа, што гэта не так?

## 29 ЧЭРВЕНЯ, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**08.45** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**09.10** Серыял «За ўсё табе дзякую».
**10.05** Сфера інтарэсаў.
**10.35** Журналіцкае расследаванне.
**11.05** Камедыйны серыял «Сваты-4».
**12.10** Серыял «Маргоша».
**14.05** Серыял «Абдуры мяне-2» (ЗША).
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**16.00** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**16.30** «Перазагрузка». Моладзевае ток-шоў.
**17.15** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.10** Зона камфорту.
**18.45, 00.05** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Дак. цыкл «Зорнае жыццё».
**21.00** Панарама.
**21.45** Ведай нашых.
**21.55** Серыял «За ўсё табе дзякую».
**23.05** Ток-шоў «Не толькі жанчына ведае».
**00.30** Дзень спорту.
**00.45** Трылер «Клуб жахаў» (ЗША).

---

**06.00, 09.00** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць выдатна!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Мясаеды супраць траваедных».
**12.10** «Жаночы доктар».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Жадаю ведаць» з Міхасём Шырвіндтам.
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны.
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Шчаслівы квіток». Шматсер. фільм.
**22.10** АНТ прадстаўляе: «Музычныя вечары ў Мірскім замку». Сольны канцэрт групы «Без Квітка». «Летуценнікі».
**23.55** «Вячэрні Ургант».
**00.25** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Дыверсант. Канец вайны». Серыял.
**09.30** «Аўтапанарама».
**09.55** «Добры дзень, доктар».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты International». Серыял.
**14.35** «Меч». Серыял.
**15.30** «Забойная сіла-3». Серыял.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** Ток-шоў «Такі лёс».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Камедыя па пятніцах».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Механічны апельсін».
**23.50** «Еўрапейскі покерны тур».
**00.35** «Пантэра». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Ясі і худзей.
**09.05** Драматычны серыял «Вар'яты-3».
**10.35** Школа рамонту.
**11.50** Вышэйшая мера.
**12.35** Страсці па культуры.
**13.20** Серыял «Дзяржаўная мяжа».
**14.40** Моладзевая спартовая драма «Святы Ральф» (Канада).
**16.40** Жансавет.
**17.15** Беларуская кухня.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Прыгодніцкі трылер «Кантроль зямлі» (ЗША).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Бітва экстрасэнсаў.
**22.35** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**23.20** Фактар сілы.
**23.50** Моладзевая камедыя «Мярцвяк у каледжы» (ЗША).

---

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**05.05, 06.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**07.05** Праграма «Цік-так».
**07.25** Праграма «Ёга для ўсіх. Курс для пачаткоўцаў».
**08.05** Праграма «Энцыклапедыя густу».
**08.35, 09.05, 10.05** Тэлесерыял «Каханне і іншыя дурасці».
**11.05** Праграма «Рэспубліка сёння».
**11.25** Праграма «Смачны свет».
**12.20** Дак. фільм «Разумныя тэхналогіі».
**12.50** Мультсерыял «Крыштальная маска».
**13.20** Мастацкі фільм «Сентыментальны раман».
**15.25** Тэлесерыял «Чужыя таямніцы».
**17.05** Праграма «Злачынства і пакаранне».
**17.35** Праграма «Простая мова».
**18.25** Праграма «Акцэнты».
**18.40** Праграма «Вялікі рэпартаж».
**19.10** Мастацкі фільм «Пакараць смерцю нельга памілаваць».
**21.20** Праграма «Неверагодная праўда пра зорак».
**21.50** Праграма «Любімыя акцёры».
**22.20** Мастацкі фільм «За цудоўных дам».
**23.45** Мастацкі фільм «Як стаць зоркай».
**03.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».

### Discovery Channel

**05.00** Пятая перадача. Серыя 9.
**05.25** Залатая ліхаманка.
**06.20** Як гэта ўладкавана? Серыя 10.
**06.50** Як гэта зроблена? Серыя 14.
**07.15** Сапраўдныя аферысты. Серыя 7.
**07.45** Сапраўдныя аферысты. Серыя 8.
**08.10** Разбуральнікі легенд.
**09.05** Залатая ліхаманка.
**10.00** Выжыць любым коштам.
**10.55** Зброя па-амерыканску.
**11.50** Адзін у поле ваяр.
**12.45** Top Gear. Серыя 6.
**13.40** Аўтамайстэрні.
**14.35** Пятая перадача. Серыя 10.
**15.05** Залатая ліхаманка.
**16.00** Ці магчыма гэта.
**17.00** Хлопцы з гарматамі.
**17.30** Каралі аўкцыёнаў.
**18.00** Сапраўдныя аферысты. Серыя 9.
**18.30** Сапраўдныя аферысты. Серыя 10.
**19.00** Разбуральнікі легенд.
**20.00** Як гэта ўладкавана? Серыя 11.
**20.30** Як гэта зроблена? Серыя 15.
**21.00** Выжыць любым коштам.
**22.00** Фрэдзі Флінтоф супраць усіх. Серыя 6.
**23.00** Браты па багне.
**23.30** Рачныя монстры.
**00.25** Сапраўдныя аферысты. Серыя 9.
**00.55** Залатая ліхаманка.
**01.50** Разбуральнікі легенд.
**02.45** Вокамгненныя катастрофы. Серыя 37.
**03.10** Як гэта ўладкавана? Серыя 11.
**03.40** Як гэта зроблена? Серыя 15.
**04.05** Аўтамайстэрні.

### Eurosport

**00.00** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Еўра-2012.
**02.00** Лёгкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Хельсінкі - Дзень 2.
**09.00** Лёгкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Хельсінкі - Дзень 3.
**15.15** Футбол: Чэмпіянат Еўропы для дзяўчын да 17 гадоў. Швейцарыя - Фінал.
**17.20** Навіны: Еўра-2012. Навіны.
**17.30** Алімпійскія гульні.
**17.45** Лёгкая атлетыка.
**18.00** Лёгкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Хельсінкі - Дзень 3.
**22.45** Футбол.
**23.15** Футбол: Чэмпіянат Еўропы для дзяўчын да 17 гадоў. Швейцарыя - Фінал.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.35** «Ваенныя гульні», дак. фільм: 4 серыя.
**08.25** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**08.40** «Час гонару», серыял: 16 серыя.
**09.25** «Тэра постсаветыка. Бяздомныя дзеці ў Адэсе», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**09.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**10.00** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.30** «Кастусь Шыдлоўскі», рэпартаж, 2010 г., Беларусь.
**10.45** Паляванне на дзівосы (спазнаваўчая праграма).
**11.05** «Дэфект», тэлесерыял: 4 серыя.
**12.00** «Белы ветразь над Прыпяццю», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**12.55** «Ваенныя гульні», дак. фільм: 4 серыя.
**13.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**13.55** «Зграя», сенсацыйны серыял: 8 серыя.
**14.55** «Тэра постсаветыка. Бяздомныя дзеці ў Адэсе», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**15.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**15.30** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.55** «Кастусь Шыдлоўскі», рэпартаж, 2010 г., Беларусь.
**16.15** Паляванне на дзівосы (спазнаваўчая праграма).
**16.35** МакраФон: «Троіца», фільм-канцэрт.
**17.05** «Кароль-вінароб», серыял: 2 серыя.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 4 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Беларускія лёсы: «Вацлаў Іваноўскі – загляне сонца», рэпартаж, 2009 г., Беларусь.
**19.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.40** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** «Апантаныя», дак. цыкл.
**20.45** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Чатыры сімвалы», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**21.55** «Закаханы анёл», маст. фільм, 2005 г., Польшча.
**23.35** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**23.55** Аб'ектыў.
**00.20** «Дэтэрмінатар», серыял: 3 серыя.
**01.05** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## 30 ЧЭРВЕНЯ, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Здароўе.
**09.55** Да цешчы на бліны.
**10.30** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**11.00** Дак. цыкл «Зорнае жыццё».
**12.10** Анімацыйны фільм «Прынц Егіпту» (ЗША).
**13.55** Дакументальны фільм «Завядзёнка».
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Прыгодніцкая камедыя «Я – Цэзар» (Францыя).
**17.15** Тэлефільм цыклу «Зямля беларуская».
**17.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**18.05** Ваша лато.
**18.45** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.15** Камедыя (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Трылер «Цалуючы дзяўчын» (ЗША).
**23.45** «Гісторыя майго кахання». Канцэрт.
**01.20** Дзень спорту.

---

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.40** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.10** «Разумніцы і разумнікі». Фінал.
**11.55** «Смешарыкі. ПІН-код».
**12.05** «Цені знікаюць апоўдні». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. «Гоша Куцэнка. Гульня ў праўду».
**17.20** «Вяпрук» Шматсерыйны фільм.
**19.25** «Абмен жонкамі».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Жорсткія гульні». Новы сезон.
**22.45** Зачынены паказ. Фільм Сяргея Салаўёва «Аднакласнікі».

### СТВ

**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.05** «Анфас».
**08.20** «Я - вандроўца».
**08.45** «Чыстая праца».
**09.35** «Мінск і мінчукі».
**10.10** «Кіно»: «Ў завесе» (Вялікабрытанія, 2009 г.).
**12.05** «Прыгоды дылетанта».
**12.40** «Наша кіно».
**14.10** «Ваенная таямніца».
**16.00** «Небяспечны месяц».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Наша кіно.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** «Наша кіно»: «Дняпроўская мяжа» (Беларусь, 2009 г.).
**22.40** «Зорны рынг». Надзея Мікуліч супраць групы «ZM99».
**23.55** «Кіно»: «Перагон» (Расія, 2006 г.).
**02.20** «Пантэра». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**08.20** Дабравест.
**08.50** Мір вашай хаце.
**09.00** Прыгодніцкі трылер «Кантроль зямлі» (ЗША).
**10.50** Пра мастацтва.
**11.25** Тэлебарометр.
**11.30** Школа рамонту.
**12.40** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.45** Пад грыфам «Вядомыя».
**14.20** Наперад у мінулае.
**14.55** Беларуская кухня.
**15.30** Дэтэктыў «Госфард Парк» (Вялікабрытанія - ЗША - Італія).
**18.10** Камедыя «Беражыся аўтамабіля» (СССР).
**19.55** Бітва экстрасэнсаў.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.15** Бітва экстрасэнсаў.
**22.20** Час футболу. Еўра-2012.
**22.55** Авантурная камедыя «Завадатар» (ЗША).
**01.00** Шоў «Суперінтуіцыя».

---

**05.00** Дак. фільм «Цюркі Расіі».
**06.00** Праграма «Даведнік».
**06.30** М/ф «Дзяўчына са швейнай машынкай».
**08.15** Праграма «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**08.30** Праграма «Прыгоды Компаса і Будзільніка».
**08.45** Праграма «Эксперыментатары».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Праграма «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.40** Праграма «На шашлыкі».
**10.10** Тэлесерыял «Карамболь».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Тэлесерыял «Карамболь».
**15.50** Мастацкі фільм «Гонар».
**17.35** М/ф «Сустрэча, якая падарыла каханне».
**20.10** Праграма «Навіны садружнасці. Культура».
**21.00** М/ф «Шлях цмока».
**22.50** Праграма «Музычны ілюмінатар».
**23.20** М/ф «Чацвяртак».
**01.00** М/ф «Вы не пакінеце мяне».
**03.10** М/ф «Дзяўчына са швейнай машынкай».

### Discovery Channel

**05.00** У пагоні за ўраганам 2010.
**05.55, 06.20** Аўтальянцы.
**06.50** Эра дыназаўраў.
**07.45** Смяротныя глыбіні.
**08.40** Рукатворныя цуды.
**09.35** Спецпрызн «Цяжкія машыны».
**10.30** Сэрца машыны.
**11.25** Самы халодны марафон.
**12.20** Каралі аўкцыёнаў.
**13.15** Аўтакаралі пустэльні.
**14.10** Махінатары. BMW 840.
**15.05** Як гэта ўладкавана? Серыя 7.
**15.30** Як гэта зроблена? Серыя 11.
**16.00** Эра дыназаўраў.
**17.00** Экстрэмальная рыбалка.
**18.00** Збройнікі.
**19.00** Разбуральнікі легенд.
**20.00** Як гэта ўладкавана? Серыя 12.
**20.30** Як гэта зроблена? Серыя 16.
**21.00** Выжыць любым коштам. Серыя 9.
**22.00** Фрэдзі Флінтоф супраць усіх. Серыя 7.
**23.00** Браты па багне.
**23.30** Спартовыя арэны Еўра-2012. Серыя 1.
**00.25** Сапраўдныя аферысты. Серыя 10.
**00.55** Выжыць разам.
**01.50** У пагоні за ўраганам 2010.
**02.45** Як гэта ўладкавана? Серыя 12.
**03.10** Аўтакаралі пустэльні.
**04.05** Махінатары. BMW 840.

### Eurosport

**00.00** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Еўра-2012.
**02.00, 09.45** Лёгкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Хельсінкі - Дзень 3.
**09.30** Фітнэс.
**10.30** Алімпійскія гульні.
**10.45** Лёгкая атлетыка.
**11.00, 19.00** Лёгкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Хельсінкі - Дзень 4.
**15.15** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур дэ Франс - Пралог.
**22.45** Футбол.
**23.15** Конны спорт: Манака.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.50** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял.
**08.20** «Мой родны горад», серыял.
**08.45** Размовы эксперта.
**09.05** Навігатар.
**09.20** Прыватная калекцыя.
**09.40** На колах.
**10.10** «Прыстань», прыгодніцкі серыял.
**10.50** «Ваенныя гульні», дак. фільм.
**11.40** Англійская для дзяцей.
**11.45** Казкі для дзетак.
**12.05** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял.
**12.35** «Бывай, зброя.», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**12.55** «Дэтэрмінатар», серыял: 3 серыя.
**13.40** «Чатыры сімвалы», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**14.10** «Вацлаў Іваноўскі – загляне сонца», рэпартаж, 2009 г., Беларусь.
**14.30** МакраФон: «Белая яблыня грому», канцэрт гурта «Крамбамбуля»: ч. 2.
**15.05** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**15.20** «Закаханы анёл», маст. фільм, 2005 г., Польшча.
**17.00** «Чарцюк з сёмага класу», дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял, 2006 г., Польшча: 1 серыя.
**17.50** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Дэфект», тэлесерыял: 4 серыя.
**19.00** «Апантаныя», дак. цыкл.
**19.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.40** Англійская для дзяцей.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**20.10** Еўропа сёння.
**20.40** Побач з намі.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** «Браты-ворагі», дак. серыял: 4 серыя.
**21.45** Суботні сеанс: «Амалья», драма, 2008 г., Партугалія.
**23.55** Аб'ектыў.
**00.10** «Арол: крымінальная сага», серыял.
**01.10** Жаўтуха (сатырычная праграма).

## 1 ліпеня, нядзеля

### Беларусь 1

**06.55** Існасць.
**07.20** Сямейная камедыя «Я – Цэзар» (Францыя).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Тэлефільм цыклу «Зямля беларуская».
**09.55** Камедыйны серыял «Зачараваны ўчастак» (Расія).
**11.00** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**11.30** Мультфільмы.
**12.10** Медычныя таямніцы.
**12.55** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**14.05** Час Саюза.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Мультфільм «Ох і Ах».
**15.40** Сатырычная камедыя «Гараж» (СССР).
**17.35** Каробка перадач.
**18.15** Суперлато.
**19.00** Фантастычны баявік «Зорны шлях. Паўстанне» (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Трылер «Прамая і відавочная пагроза»» (ЗША).

### АНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.55** «Шалапутныя нататкі».
**10.15** Пакуль усе дома.
**11.10** «Фазэнда».
**11.45** Прэм'ера. «Развод. Я табе нічога не аддам..».
**12.45** «Смешарыкі. ПІН-код».
**13.05** «Залатая калекцыя Беларусьфільма». «Гонка падраздзяленняў».
**13.40** Дзяржаўная мяжа. Фільм 1. «Мы наш, мы новы...».
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Жаночыя мары пра далёкія краіны». Шматсерыйны фільм.
**20.00** Контуры.
**21.05** Прэм'ера. «Фабрыка зорак. Расія - Украіна».
**22.40** Прэм'ера. Уладзімір Познер, Іван Ургант у праекце «Іх Італія».
**00.30** Георгій Віцын у камедыі «Жаніцьба Бальзамінава».

### СТВ

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.25** «Салдаты-14». Серыял.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Відавочца прадстаўляе: самае смешнае».
**10.00** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Дняпроўская мяжа» (2009 г.).
**13.05** «Добры дзень, доктар».
**13.35** «Альпійская балада» (СССР, 1965 г.).
**15.15** Ток-шоў «Такі лёс».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Праўда». Праграма Паўла Каранеўскага.
**17.30** Канцэрт Міхаіла Задорнова.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** «Радзіма ці смерць» (Расія - Беларусь, 2007 г.).
**22.25** «Пякельная кухня». Фінал.
**23.45** «Ворагі» (Расія - Беларусь, 2007 г.).
**01.05** «Пантэра». Серыял.

### Беларусь 2

**08.00** Размова са святаром.
**08.10** Прыступкі Веры.
**08.25** Таямніца душы.
**08.50** Камедыя «Беражыся аўтамабіля» (СССР).
**10.40** Тэлебарометр.
**10.45** Школа рамонту.
**11.55** Вышэй за дах.
**12.30** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.35** Бухта капітанаў.
**14.15** Трагікамедыя «Сабачае сэрца» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**16.50** «Славянскі базар».
**17.55** Футбол. Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь. БАТЭ-Дынама (Мінск). Прамая трансляцыя.
**20.15** Спорт-кадр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Навіны надвор'я.
**21.35** Футбол. Еўра-2012. Фінал. Прамая трансляцыя.
**00.20** Час футболу. Еўра-2012.
**00.55** Шоў «Суперінтуіцыя».

### Мир

**05.00** Дак. фільм «Цюркі Расіі».
**06.00** Праграма «Смачны свет».
**06.30** М/ф «Каралі для маёй каханай».
**07.50** Мультсерыял «Прыгоды Мумі Троля».
**08.15** Праграма «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**08.30** Праграма «Прыгоды Компаса і Будзільніка».
**08.45** Праграма «Эксперыментатары».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Праграма «Ведаем рускую».
**10.10** Праграма «Даведнік».
**10.40** Тэлесерыял «Пра каханне і іншых непрыемнасцях».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**15.50** Тэлесерыял «Смуга рассейваецца».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**21.00** Тэлесерыял «Смуга рассейваецца».
**00.50** Праграма «Паўночнікі».
**01.25** Праграма «Навіны садружнасці. Культура».
**02.10** Дак. фільм «Цюркі Расіі».
**03.15** М/ф «Каралі для маёй каханай».

### Discovery Channel

**05.00** Вокамгненныя катастрофы. Серыя 33–34.
**05.55** Энергія будучыні.
**06.50** Разбуральнікі легенд. Прайсціся па прамой.
**07.45** Як гэта ўладкавана.
**08.10** Як гэта зроблена? Серыя 12.
**08.40** Экстрэмальная рыбалка.
**09.35** Эра дыназаўраў.
**10.30** У пагоні за ўраганам 2010.
**11.25** Лабараторыя для мужчын Джэймса Мэя. Серыя 3.
**12.20** Разбуральнікі легенд.
**13.15** Круцей не прыдумаеш. Серыя 80–81.
**14.10** Каралі аўкцыёнаў.
**15.05** Самы халодны марафон.
**16.00** Лабараторыя для мужчын Джэймса Мэя. Серыя 1–3.
**19.00** Разбуральнікі легенд.
**20.00** Як гэта ўладкавана.
**20.30** Як гэта зроблена? Серыя 17.
**21.00** Выжыць любым коштам. Серыя 10.
**22.00** Фрэдзі Флінтоф супраць усіх. Серыя 8.
**23.00** Браты па багне.
**23.30** Спартовыя арэны чэмпіянату 2012.
**00.25** Сапраўдныя аферысты. Серыя 1.
**00.55** Разбуральнікі легенд.
**01.50** Энергія будучыні. Энергія планеты.
**02.45** Як гэта ўладкавана.
**03.10** Рукатворныя цуды.
**04.05** Сэрца машыны.

### Eurosport

**00.30** Конны спорт: Скачкі. Агляд тыдня.
**00.45, 12.00** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур дэ Франс - Пралог.
**01.45, 11.00** Лёгкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Хельсінкі - Дзень 4.
**09.30** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур дэ Франс - Пралог.
**10.30** Аўтагонкі: Сусветная серыя Рэно Германія - Гонка 1.
**13.00** Супербайк: Чэмпіянат Міры. Іспанія - 1я спроба.
**14.00** Аўтагонкі: Сусветная серыя Рэно Германія - Гонка 2.
**15.00** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур дэ Франс – 1-ы этап.
**18.30** Лёгкая атлетыка: Чэмпіянат Еўропы. Хельсінкі - Дзень 5.
**21.00** Футбол.
**21.30** Суперспорт: Чэмпіянат свету. Іспанія.
**22.15** Супербайк: Чэмпіянат свету. Іспанія – 2-я спроба.

### Белсат tv / Belsat

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Англійская для дзяцей.
**07.20** Казкі для дзетак.
**07.50** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял.
**08.20** «Мой родны горад», серыял: 8 серыя.
**08.45** «Апантаныя», дак. цыкл.
**08.55** Побач з намі.
**09.10** «Дэфект», тэлесерыял: 4 серыя.
**10.05** Еўропа сёння.
**10.35** «Чарцюк з сёмага класу», серыял: 1 серыя.
**11.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**11.45** Англійская для дзяцей.
**11.50** Казкі для дзетак.
**12.20** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял.
**12.50** «Арол: крымінальная сага», серыял: 7 серыя.
**13.50** «Браты-ворагі», дак. серыял: 4 серыя.
**14.20** «Амалья», драма, 2008 г., Партугалія.
**16.30** Форум (ток-шоу).
**17.15** «Бэркат і Маршо. Свабода і шчасце», дак. фільм, 2007 г., Чэхія.
**18.15** «Каралева Бона», тэлесерыял.
**19.15** Басанож па свеце.
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** «Палітычныя забойствы», дак. фільм, 2005 г., Францыя: 1 серыя, «Робэрт Кенэдзі: канец амерыканскае мары».
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.40** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**22.00** Фільматэка майстроў: «Пад Кубрыка», маст. фільм, 2005 г., Францыя–Брытанія.
**23.30** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**00.10** «Арол: крымінальная сага», серыял.
**01.10** «Бульбаны», мультсерыял.

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57 Юрый;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8044) 755 66 48 Марына.

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 _____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты да 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня
Всего

Кассир

ВЫБАРЫ

# УСЕ НЕНАВІДЗЯЦЬ МАРЫНУ

Алег НОВІКАЎ

**Па выніках выбараў у Францыі ў парламент нечакана прайшлі праціўнікі манаполіі сямейства Ле Пэн на брэнд ультраправых.**



16 чэрвеня ў краіне адбыўся другі тур парламенцкіх выбараў. Марына Ле Пэн, кандыдат партыі «Нацыянальны фронт» (FN) па акрузе Па-дэ-Кале, прайграла суперніку Філіпу Кемелю з партыі сацыялістаў. Кандыдат левых апярэдзіў Ле Пэн усяго на 118 галасоў. Дадзеныя выбаркаму выклікалі эйфарыю ў прагрэсіўнай грамадскасці Францыі. Пасля таго, як у першым туры Ле Пэн атрымала 42 працэнта, дэмакраты — як правыя, так і левыя, — заўзята абмяркоўвалі схемы і планы, якія павінны былі не дапусціць перамогі Марыны.

Цяпер, пасля таго, як дэпутацкія амбіцыі Марыны Ле Пэн ляснуліся, левым і лібералам можна перавесці дух. Аднак правыя радыкалы значна больш за іх задаволеныя правалам лідара правых радыкалаў. Маем на ўвазе так званую «гістарычную правую» — спектр партый, асацыяцый, клубаў правай арыентацыі, якія змагаюцца супраць сямейства Ле Пэн.

На іх думку, Марына Ле Пэн і яе бацька падманам узурпавалі правы фланг, дыскрэдытуюць правую ідэю, і ўвогуле з'яўляюцца агентамі «сістэмы».

Сапраўды, партыя «Нацыянальны фронт» з'явілася на палітычным гарызонце дастаткова позна, толькі ў пачатку 1970-х гадоў. Ідэйнае крэда FN і яго тактыка часам супярэчылі правай французскай традыцыі. Напрыклад, у 1980-я гады партыя Ле Пэна падтрымлівала рыначны канцэпцыі Рэйгана, хаця звычайна правыя шукалі эканамічны ідэал у мадэлі карпаратыўнай дзяржавы. Тым не менш «гістарычныя правыя» і «Нацыянальны фронт» неяк ужываліся. Як казаў у 1996 годзе П'ер Сідо, адзін з лідараў групы «Французская справа», галасаваць за Ле Пэна — значыць не дапусціць «ідэалагічнай нармалізацыі».

Канчатковы развод адбыўся на пачатку гэтага стагоддзя, калі Жан-Мары Ле Пэн правёў аперацыю «пераемнік» — дабіўся, каб «Нацыянальны фронт» узначаліла яго дачка Марына. Пры гэтым за бортам засталіся шматлікія ветэраны правага руху.

У 2009 годзе антылепэнаўская правая пачала афармляцца ў адзіную структуру. Актыў шматлікіх правых ініцыятыў сустрэўся ў Парыжы, каб абмеркаваць сітуацыю і разам паесці свініны (без рытуалу дэманстратыўнага спажывання блюдаў са свініны, якая, як вядома, забароненая ў ісламе, не абыходзіцца цяпер ніводная тусоўка французскіх ультраправых). Пасля адбыўся ўстаноўчы сход кааліцыі Саюз нацыянальнай правай (UDN).

Галоўная мэта UDN, як сказаў адзін з трыбунаў: «Пакончыць з 35-гадовым дамінаваннем фамільнага фронту». У лексіцы выступоўцаў можна было сустрэць шэраг цікавых аналогій. Некаторыя нават параўналі FN з вертыкальнай пірамідай КПСС.

Найбольш буйныя суб'екты новага аб'яднання — Партыя Францыі (PDF), Новыя народныя правыя (NDP), Нацыянальны рэспубліканскі рух (MNR) і інш. У большасці пералічаныя групы маюць выразны персаналіцкі характар і ўзніклі на базе тых, хто ў розныя часы пакінулі «Нацыянальны фронт». Хаця тут ёсць варыяцыі. Так, NDP узнікла як спроба імпартаваць у Францыю напрацоўкі бельгійскай партыі «Фламандскі блок» і аўстрыйскай «Партыі Свабоды». Фламандцы і аўстрыйцы разглядаюць сябе асобна ад правай традыцыі і робяць стаўку выключна на папуліцкія ісламафобскія заклікі.

Ініцыятыву па стварэнні UDN падтрымалі вядучыя правыя выданні кшталту «Rivarol» (самы вядомы нацыяналістычны СМІ ў Францыі). Яго цяперашні рэдактар Жэром Бурбон назваў Марыну Ле Пэн «абсалютным дэманам» і «абсалютным ворагам у палітычным і інтэлектуальным планах». Так ён адрэагаваў на словы Марыны: «Я не збіраюся трываць прысутнасць у FN карыкатурных і анахранічных радыкалаў».

Аднак спробы перавесці канфлікт з кланам Ле Пэн у галіну канцэптуальнага супрацьстаяння падаюцца несур'ёзнымі. Справа ў тым, што сама тусоўка антылепэнаўцаў вельмі неаднародная ў ідэйным плане. Тут ёсць Карл Ланг — правадыр PDF, які крытыкуе Марыну Ле Пэн за тое, што яна выстаўляе сябе прыхільніцай прынцыпаў свецкай дзяржавы. «Я мяркую, што свецкасць — гэта траянскі конь ісламізацыі, — кажа Карл Ланг. — Адказам на імклівую ісламізацыю можа быць замацаванне нашай ідэнтычнасці, якая базуецца на хрысціянскай спадчыне».

Аднак такі ўльтраклерыкалізм не перашкаджае яму супрацоўнічаць у рамках таго ж Саюза нацыянальнай правай з П'ерам Валем, лідарам асацыяцыі «Terre et Peuple». Апошні заклікае да вяртання паганскіх культаў, што, па яго словах, ёсць «асноўай арыгінальнай ідэнтычнасці старажытных галаў», якую разбурылі менавіта хрысціянскія місіянеры.

А вось погляды на міжнародную палітыку амаль ва ўсіх антылепэністаў аднолькавыя. Як і Ле Пэн, «гістарычныя правыя» выступаюць за выхад Францыі з NATO, еўрапейскіх структур і за стварэнне геапалітычнага блоку з Расіяй.

У 2010 годзе «гістарычныя правыя» разам паспрабавалі дэлепэнізаваць правую палітыку — выставілі сваіх кандыдатаў на мясцовыя выбары. Яны таксама ўдзельнічалі ў апошніх прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбарах. Пакуль спробы змясціць дынастыю Ле Пэнаў сціплыя. На выбарах у парламент UDN набраў толькі 0,19 працэнтаў. Увогуле, лепшым дасягненнем антылепэнаўскай правай ёсць вынік парламенцкіх выбараў 1999 года, калі партыя «Нацыянальны рэспубліканскі рух», якой тады кіраваў Бруна Мегрэ, экс-франтавік і муж адной з дачок Ле Пэна, атрымала 3,5 працэнта.

Аднак аказалася, што ўсё не так сумна. Нечакана для парыжскіх назіральнікаў па выніках другога туру ў парламент трапіў Жак Бампар — лідар мікрапартыі «Паўднёвая ліга» — вельмі папулярны ў сябе на радзіме ў горадзе Аранж палітык. Гісторыя «Паўднёвай лігі» — гэта гісторыя таго, як Жак пасварыўся з Марынай Ле Пэн і вырашыў стварыць сваю партыю, якая з часам наладзіла кантакты з іншымі антылепэнаўскімі цэнтрамі.

Вось так нечакана «гістарычная правая» атрымала мандат у парламенце. Прычым «Нацыянальны фронт» таксама мае аднаго дэпутата. Усё гэта адбываецца на фоне спрыяльных для гістарычных правых трэндаў. Дзякуючы Нікаля Сарказі, які пазычыў у «Нацыянальнага фронту» антыэміграцыйныя лозунгі, старая герметычная партыйная дыскусія галістаў разбурылася. Газеты пішуць пра тое, што поўным ходам ідзе ідэйная канвергенцыя галістаў і нацыяналістаў, якая можа значыць дрэйф «Нацыянальнага фронту» ў бок цэнтра, што адначасова пашырае «гістарычным правым» люфт для манёўраў.

Праблема ў тым, што французскі выбаршчык слаба разбіраецца ў нюансах правай дыскусіі. Слова «правы радыкал» сінанімічна паняццю «Нацыянальны фронт». Шмат хто з палітолагаў лічыць, што «гістарычныя правыя» ўжо не здольныя выцесніць «Нацыянальны фронт» з правай нішы. Час быў упушчаны ў сярэдзіне 1990-х, калі Жан-Мары запусціў працэс перадачы ўлады. Тады, з улікам наяўнасці ў партыі вялікай апазіцыйнай фракцыі пад кіраўніцтвам Бруна Гальніша, быў шанец сарваць працэс узурпацыі брэнда.

Таму пакуль рана казаць пра тое, што «гістарычныя правыя» змогуць развіць ініцыятыву і скласці канкурэнцыю «Нацыянальнаму фронту». У тым ліку не вядома, чаго на самай справе хоча сам Жак Бампар. Яго «Паўднёвая ліга», калі верыць праграме, хоча не толькі спынення ісламізацыі, аднак таксама мае намер абараніць «ідэнтычнасць Поўдня накшталт таго, як гэта робіць «Паўночная ліга» ў Італіі». Апошняя, як вядома, лічыць, што лепшы сродак абароны рэгіянальнай ідэнтычнасці — гэта федэралізацыя дзяржавы.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Беларусь у адказ на санкцыі ЕС пагражае пераарыентаваць экспарт з Клайпеды ў расійскія парты. У Літве гэта выклікала нервовую рэакцыю. Аднак менавіта гэтага і хацеў Мінск… Абяцанні Мінска перанакіраваць транзіт — не што іншае, як звычайны блеф. Пераарыентацыя беларускіх грузаў з Клайпеды на расійскія парты наўрад ці магчымая. Расія, якая ўступіла ў Сусветную гандлёвую арганізацыю (СГА), ужо з 1 ліпеня 2013 года будзе змушана прывесці тарыфы на чыгуначныя перавозкі ў адпаведнасць з нормамі СГА, а не з пажаданнямі Лукашэнкі. Такім чынам, за ўсёй шуміхай вакол маршрутаў транзіту Мінску, праглядаюцца толькі спекуляцыі і шантаж Вільнюса пазбавіцца стабільнага прыбытку, а таксама спроба пасварыць Літву з Еўрасаюзам і адначасова нешта паабяцаць Расіі.

**«Deutche Welle» (Германія)**

Занепакоенасць афіцыйных асобаў у ЗША расце ў сувязі з паведамленнямі пра тое, што прэзідэнт Сірыі Башар Асад атрымлівае ваенную дапамогу з Беларусі — краіны, якая ігнаруе міжнародныя высілкі па ізаляцыі сірыйскага рэжыму. Заходнія палітыкі і незалежныя эксперты заяўляюць, што рэжым Аляксандра Лукашэнкі забяспечвае войска Асада тэхналогіямі, якія дазваляюць палепшыць магчымасці ракет «зямля-зямля», што выкарыстоўваюцца сірыйскім войскам для жорсткага здушэння паўстання па ўсёй краіне.

**«National Journal» (ЗША)**

Мінск наведалі прадстаўнікі службы знешнепалітычнай дзейнасці ЕС Джон Кайер і Стывен Трэсінг. Прадстаўнікі ЕС у Мінску заявілі, што Еўропа не толькі не мае намеру «дзякаваць» Аляксандру Лукашэнку за вызваленне дваіх палітвязняў, але яшчэ і гатовая ўзмацніць санкцыі ў дачыненні да Беларусі, калі астатнія палітычныя вязні не выйдуць на волю. У той жа час раней Лукашэнка заявіў, што хуткая амністыя не будзе насіць ніякага палітычнага характару. Еўропа спрабуе не даць уцягнуць сябе ў чарговы гандаль, каментуючы сітуацыю назіральнікі.

**«Независимая газета» (Расія)**

Ён (Лукашэнка) зноў узяўся за старое. І КаМАЗ яму не МАЗ. У гіпатэтычным сумесным прадпрыемстве «Росбелавто» ён хоча 50 на 50, і толькі на сваіх умовах. І рубель яму не валюта. Кажа, крызіс перажылі і яшчэ пераживём. І прыватызацыя — не прыватызацыя па-расійску. Хоць менавіта пад яе ён атрымліае гэтыя самыя расійскія траншы. Іншымі словамі, беларускі прэзідэнт зноў пусціў у ход звыклую для сябе рыторыку. Быццам і не было гэтай прынцыповай, знамянальнай, гістарычнай (патрэбнае падкрэсліць) сустрэчы ў Мінску з Уладзімірам Пуціным. Лукашэнка, дарэчы, пераконвае, што новая інтэграцыя павінна быць разумней, чым у Савецкім Саюзе. І быццам бы добра, што Лукашэнка гэта разумее. Кепска, што сам усё яшчэ жыве тым самым «заднім розумам».

**«Голос Росии» (Расія)**

Да Лукашэнкі трэба ставіцца паважліва. Ці ў 1980-х Джордж Буш ці Рональд Рэйган публічна абураліся наконт Войцеха Ярузэльскага ці здзекаваліся з яго? Не. Былі канкрэтныя, «мужчынскія» выказванні і маўчанне. Рашучасць выражалася ў дзеяннях, а не ў публічных зварках і інфляцыі заяваў. Лукашэнка не дапусціць свабодных выбараў, не трэба тут мрояў. Але выпусціць палітвязняў ён можа, як можа і павялічыць свабоду слова, зменшыць рамкі цэнзуры, а таксама можа палепшыць становішча нацменшасцяў.

**«Nowa Europa Wschodnia» (Польшча)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. ПЕРАДАЛІМПІЙСКАЯ ЗАЧЫСТКА

У лепшых традыцыях Маскоўскай алімпіяды 1980 года, якой папярэднічаў капітальны хапун на ўсіх антысацыяльных элементаў у сталіцы СССР, улады Лондана напярэдадні алімпійскіх гульняў таксама заняліся сацыяльнай санацыяй. Яна праводзіцца ў рамках кампаніі «Capital clean-up», якую ініцыявала мэрыя, дзе зараз кіруюць кансерватары. Першымі ахвярамі «Capital clean-up»сталі бамжы, якім катэгарычна забаранілі спаць у цэнтры брытанскай сталіцы. Тыя, хто працягвае спаць на вуліцах, чакае ў прамым сэнсе слова халодны душ. Іх будуць змываць з тратуараў вадамётамі. Таксама дасталася аматарам піць піва або паліць у публічных месцах. Паліцыя арганізуе паляванне на гэтыя катэгорыі «злачынцаў». Найбольш незвычайная ахвяра кампаніі — так званыя «людзі-сэндвічы» — асобы, якія рэкламуюць на вуліцы нейкі тавар або паслугі з дапамогай плакатаў з абодвух бакоў цела. Чамусьці ўлады палічылі такую рэкламу крыміналам. Застаецца сказаць, што рознага кшталту сацыяльныя актывісты ўжо пачалі сваю кампанію супраць пераследу бяздомных.

**Паводле брытанскай прэсы**

### УКРАІНА. ГІМНУ — 150 ГАДОЎ

Вярхоўная Рада Украіны прыняла пастанову «Пра ўшанаванне 150-годдзя з дня напісання Дзяржаўнага гімна Украіны». У пастанове адзначаецца, што ў 2012 годзе спаўняецца 150 гадоў з дня напісання паэтам Пятром Чубінскім верша «Ще не вмерла Україна...», які пасля стаў тэкстам дзяржаўнага гімна Украіны. Пастановай прадугледжана ўрачыста адзначыць на дзяржаўным узроўні 150-годдзе гэтага твора. У сваёй рэзалюцыі дэпутаты прапануюць Кабміну правесці тэматычныя выставы, а кіраўніцтву ўстановы Укрпошта — выдаць серыю паштовых марак з гэтай нагоды. Як і варта было чакаць, пастанова Вярхоўнай Рады выклікала хвалю дэбатаў наконт таго, ці «Ще не вмерла» адпавядае крытэрыям гімна. Вядома, што Чубінскі, складаючы верш, арыентаваўся на тэкст польскага гімна, у якім гаворка ідзе пра Польшчу, якая «не згінула». Нарэшце, шэраг палітыкаў выступаюць за выключэнне з тэксту гімна правакацыйных слоў пра дзяржаўныя межы Украіны, якія, на думку Чубінскага, цягнуцца ад ракі Дон да ракі Сан, басейны якіх сёння ўваходзяць у склад Расіі і Польшчы. Праўда, з улікам, што гэта не першыя спрэчкі вакол гімна, няма сумневаў, што твор Чубінскага ў класічным варыянце застанецца і далей тэкстам гімна Украіны.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. БУДЗЕ АЭРАПОРТ ІМЯ БОЛЕКА?




Станіслаў Пента, дэпутат польскага сейму ад кансерватыўнай партыі «Права і Справядлівасць» (PiS), знайшоў новы спосаб адпомсціць Леху Валенсе за яго апошнія ўчынкі. Нагадаем, што былы лідар «Салідарнасці» перагледзеў прынцыпы свайго палітычнага юнацтва і зараз адкрыта фліртуе з былымі камуністамі кшталту Ярузельскага. У якасці помсты Пента прапанаваў перайменаваць аэрадром у Гданьску, які цяпер носіць імя Леха Валенсы. У адпаведнасці з яго прапановай, аптымальная назва аб’екту — аэрапорт імя Болека. Болек у дадзеным выпадку — не герой папулярнага польскага мультсерыялу, а, калі верыць некаторым крыніцам, мянушка Валенсы, якую ён атрымаў падчас супрацоўніцтва з органамі бяспекі ў сацыялістычнай Польшчы.Па словах дэпутата, калі капітан самалёта абвяшчае пра пасадку ў аэрапорце імя Валенсы, яго ахоплівае пачуццё сораму. Пан Пента таксама лічыць, што слова «Валенса» ў назве гданьскага аэрапорта кампраметуе ўвесь горад. Цікавай была рэакцыя ўлады на прапанову парламентарыя. Па словах аднаго з лідараў урадавай ліберальнай партыі «Грамадзянская платформа» (PO), выказванні Пенты яшчэ раз даводзяць неабходнасць правяраць стан псіхічнага здароўя ўсіх кандыдатаў у Сейм.

**Паводле польскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. НАЦЫЯНАЛІСТЫЧНАЯ МОЛАДЗЬ ПРЫПЫНЯЕ ДЗЕЙНАСЦЬ

Праз восем месяцаў пасля таго, як арганізацыя баскскіх нацыяналістаў ETA абвясціла пра прыпыненне вайсковых аперацый, вырашыла распусціцца і яе моладзевая фракцыя «Segi». Лічыцца, што «Segi», якая працавала з моладдзю, была галоўным пастаўшчыком кадраў для ETA. Нядзіўна, што некалькі гадоў таму арганізацыю абвясцілі па-за законам, а яе лідараў пачалі цягаць у паліцэйскія пастарункі на допыты. На цяперашні момант каля некалькіх дзясяткаў актывістаў «Segi» знаходзяцца за кратамі. Праўда, асаблівага эфекту паліцэйскія рэпрэсіі не мелі. «Segi» ўвесь час працягвала існаваць у падполлі, пакуль на днях сама не вырашала расфарміравацца. У рэдакцыі нацыяналістычных газет «Gara» і «Berria» паступіў ліст ад кіраўніцтва арганізацыі, у якім гаворыцца, што «Segi» прыпыняе дзейнасць. Праўда, сэнс заявы да канца не зразумелы, паколькі сінхронна заяве пра самароспуск аўтары дакументу заклікаюць усіх сяброў групоўкі і далей змагацца за незалежнасць. Тым не менш сам факт заявы сведчыць пра намер баскскіх нацыяналістаў дамагацца незалежнасці для краю мірнымі сродкамі.

**Паводле іспанскай прэсы**

ЧЭМПІЯНАТ

# ТАКІ ФУТБОЛ НАМ НЕ ПАТРЭБНЫ

Алег НОВІКАЎ




**Хаця турнір «Еўра–2012» яшчэ не закончыўся, у Польшчы імкліва пашыраецца рух яго крытыкаў.**

«Новы Час» ужо пісаў, што сінхронна з адкрыццём чэмпіянату Еўропы па футболу ў Польшчы стартавала кампанія супраць правядзення турніру. Яе арганізатарамі выступіла купка анархістаў, асацыяцый арандатараў жылля і актыў незалежных прафсаюзаў. Надпісы на білбордах, выстаўленых арганізатарамі ва ўсіх чатырох польскіх гарадах, якія прымаюць турніры, патрабавалі: «Хлеба, а не гульняў!».

Здавалася, што перад намі нейкая лявацкая маргіналія, якая хоча нагадаць пра тое, якое месца займаюць спартовыя відовішчы ў сацыяльнай інжынерыі пры капіталізме. Такое ўражанне яшчэ больш узмацнілі ваяўнічыя заявы мясцовых феміністак, якія абвясцілі вайну «Еўра–2012» і УЕФА за стварэнне рынку сэкс-паслуг (так яны называюць спаборніцтвы кшталту «Еўра–2012»).

Аднак цяпер сітуацыя мяняецца. Апошнія прагнозы пра хуткую другую хвалю эканамічнага крызісу, на фоне якога праводзіцца цяперашні турнір, надакучлівая патрыятычная істэрыка ў СМІ і правал польскай зборнай прыцягнулі ўвагу грамадскасці да тэзісаў крытыкаў УЕФА і да цяперашняй мадэлі футболу ўвогуле.

Перш за ўсё, «антыфутбольны» пратэст — спантанная рэакцыя на вялікую колькасць прапаганды ў вядучых СМІ, аўтары якой намагаюцца прадставіць «Еўра–2012» як глабальнае дасягненне, сімвал таго, што ў Польшчы ўсё добра. Відавочна, што ў значнай ступені гэта не адпавядае рэальнасці.

Адзін з блогераў піша: «З нагоды «Еўра–2012» перажываю сапраўдны шок, які арганізавалі мне СМІ. Вядучыя выданні штодня кажуць нам: «Польшча — ОК» ды «Файная Польшча». Або яны не бачаць, што робіцца вакол, або, к... ва, гэта я нейкі вар’ят. Няма падставы, каб цешыцца. Мы займаем амаль апошнія месцы ва ўсіх табліцах еўрапейскай статыстыкі. На берагах Віслы паўтара мільёна дзяцей не маюць доступу да асноўных даброт. 6,7 працэнта палякаў жыве ў беднасці. Вось гэта сапраўды прэм’ер-ліга!»

Чым больш эканамісты кажуць пра новы віток крызісу, тым больш актуальным становіцца пытанне, наколькі патрэбна (і этычна) было інвеставаць грошы ў развіццё дарагой спартовай інфраструктуры падчас крызісу. Як вядома, у асноўным рамонт краіны перад турнірам адбываўся за грошы падаткаплацельшчыкаў.

У буклеце польскай ініцыятывы «Chleba zamiast igrzysk» («Хлеба, а не гульняў») гаворыцца: «У той час, як на арганізацыю футбольнага турніру пайшлі мільярды злотых, у Польшчы скарачаюцца выдаткі на рэалізацыю асноўных сацыяльных запатрабаванняў. Зачынены дзіцячыя садкі, школы і грамадскія цэнтры, назіраецца рост платы за дзіцячыя сады, грамадскі транспарт і жыллё, прыватызаваныя ці зачыненыя шпіталі. Не хапае грошай на барацьбу з беспрацоўем, якое працягвае расці. Значна павялічылася плата за газ, электраэнергію, паліва, ваду і медыкаменты».

Між тым, аказваецца, усе інвестыцыі ў «Еўра–2012» былі ад самага пачатку нерэнтабельнымі. Па разліках эканамістаў з «Галоўнай школы гандлёвай», да 2020 года акупіцца толькі траціна сродкаў, інвеставаных у цяперашнюю спартовую імпрэзу. На думку шмат каго, інвестыцыі прывялі да таго, што ў краіне фактычна было замарожана будаўніцтва сацыяльнага і камунальнага жылля. А гэта можа бліжэйшым часам прывесці да росту коштаў на нерухомасць.

Тым больш, каб падтрымліваць створаную за апошнія гады інфраструктуру, пасля чэмпіянату будуць патрэбныя сродкі. Рэканструкцыя стадыёнаў прывядзе ў будучым да росту коштаў білетаў на матчы.

Апошняе, зразумела, не вельмі цешыць фанатаў і шараговых прыхільнікаў футболу. А таксама тое, што менавіта на падставе правядзення «Еўра–2012» былі прынятыя новыя, больш жорсткія правілы знаходжання на польскіх стадыёнах. Нядзіўна, што яшчэ напярэдадні чэмпіянату на сайтах заўзятараў пачалася свая кампанія супраць «Еўра–2012». Яе ініцыятары кажуць, што па сутнасці Дональд Туск жадае паўтарыць вопыт Маргарэт Тэтчэр, якая за кошт паліцэйскіх мер і дарагіх білетаў ператварыла англійскі футбол з любімага відовішча рабочых у забаўку сярэдняга класа.

У гэтым плане не вытрымлівае ніякай крытыкі тэорыя пра тое, што кантора Мішэля Плаціні спрыяе папулярызацыі масавага спорту. Праўда, калі на стадыёнах падчас матчаў «Еўра–2012» і прысутнічае прапаганда, то галоўным чынам у форме рэкламы тых ці іншых прадуктаў.

«Гэта не патрыятызм, а нейкі дзіўны люмпенпатрыятызм, які заключаецца ў набыцці тавараў з маркай «Еўра–2012» у супермаркетах «Biedronka». Атрымліваецца, што ад патрыёта цяпер патрабуюцца якасці пасіўнага спажыўца і гледача шоў. І пры гэтым нельга задаваць пытанне: чаму адны святкуюць свята патрыятызму ў элітных ложах, распіваючы шампанскае, а іншыя — ужываюць мадыфікаваныя кілбасы, набытыя па дысконту?» — піша сайт Lewica.pl.

Не вельмі пасуе патрыятычная лексіка ўрада Дональда Туска і прынцыпам фармавання польскай зборнай. Вядома, што напярэдадні «Еўра–2012» у яе склад уключылі этнічных палякаў з Германіі і Францыі, якія даўно забыліся пра сваё польскае паходжанне.

«Ералаш, вядомы ў народзе як «польская зборная», нават не заслугоўвае падтрымкі ў выглядзе стральбы адзінкавымі стрэламі ў лесе. «Немец», які, калі б не «Еўра–2012», ніколі б не прыехаў у нашу краіну. «Француз», які «вольна» каверкае нашу мову. Лепш бы на іх месца выйшлі палякі з моладзевай зборнай (нават калі б яны прайгралі). Толькі б не чуць, як нямецкі і французскі гульцы спяваюць польскі гімн, у якім напэўна ведаюць хіба пару радкоў», — абураецца сайт Lewica.pl.

Тое, што тон у крытыцы «Еўра–2012» задаюць левыя выданні, дазваляе ацаніць сітуацыю больш маштабна, а не проста як змову ліберальнага кабінета Дональда Туска. Так, праціўнікі УЕФА правільна адзначаюць, што праблема не ў Туску і не ў Плаціні, а ў камерцыялізацыі футбола і апетытах чыноўнікаў УЕФА.

«Разам з «Еўра–2012» у наш край завітаў футбол, арыентаваны выключна на прыбытак, які забівае сапраўдны фанатызм, ад якога за кіламетр смярдзіць камерцыяй. Такі футбол нам не патрэбны», — робіць рэзюме адзін з фанатаў-блогераў.

Аднак якая гэтаму можа быць канструктыўная альтэрнатыва? На сайтах крытыкаў УЕФА можна сустрэць заклікі да вяртання футболу ў эру непрафесійнага спорту. Напрыклад, фракцыя прыхільнікаў папулярнага клубу Manchesteru United, пратэстуючы ў 2010 годзе супраць продажу клубу нейкаму алігарху, стварыла свой аматарскі клуб FC United of Manchester, які належыць непасрэдна заўзятарам. Клуб гуляе ў аматарскай лізе і нават збірае па 5–6 тысяч гледачоў. Падобныя клубы апошнім часам узнікаюць усё часцей.

Аднак пакуль перспектыва стварэння ў той жа Польшчы аматарскай футбольнай лігі выглядае не менш фантастычнай, чым перамога на «Еўра–2012» зборнай Расіі пад кіраўніцтвам Дзіка Адваката.

МОВА

# ЦІ ТРЭБА БАЯЦЦА СУРЖЫКА?

Алег НОВІКАЎ

**Аранжавая апазіцыя сцвярджае, што ў выніку прынятага нядаўна закона пра моўную палітыку ва Украіне ўсе ўкраінцы пяройдуць на суржык — украінскі варыянт трасянкі.**




5 чэрвеня ў цэнтры Львова на 5 хвілін прыпыніўся аўтамабільны рух на знак пратэсту супраць моўнага законапраекту. Арганізатар акцыя — вядучая апазіцыйная партыя «Батьківщина» ў сваім закліку адзначае: «Цяперашняя банда, якая кіруе краінай, здольная стварыць хіба што закон пра легалізацыю суржыка, паколькі не валодае ніводнай мовай».

Такую перспектыву прагназуюць і вядучыя аналітычныя апазіцыйныя выданні. На думку часопіса «Тиждень», наданне рускай мове статусу афіцыйнай у рэгіёнах (такое права па новаму заканадаўству атрымаюць абласныя саветы) створыць у краіне жахлівы моўны вінегрэт з рускай і ўкраінскай, які ў народзе называюць суржыкам.

Аднак сітуацыя больш складаная, чым лічыць апазіцыя. Як прызнаюць лінгвісты, па сутнасці суржык — гэта і так даўно мова вялікай, калі не большай часткі насельніцтва дзяржавы. Па дадзеных Кіеўскага міжнароднага інстытута сацыялогіі, на суржыку падтрымліваюць камунікацыю ад 11 да 18% усяго насельніцтва Украіны (гэта значыць 5,1–8,3 мільёна чалавек).

Каб пераканацца ў гэтым, трэба проста ўважліва паслухаць, на якім незвычайным моўным гібрыдзе размаўляюць украінцы. Напрыклад, на вяселлях тут кажуць: «Дарую одияло, щоб у маладога стаяла». Украінскі аналаг «ковдра», відавочна, аўтару гэтай прымаўкі зарыфмаваць не атрымалася.

Як вядома, першапачатковa слова «суржык» паўстала ад выніку зліцця двух розных відаў збожжа: пшаніцы і ржы. Так называлі хлеб з рознага збожжа. У нашы часы ўкраінская лінгвістыка зрабіла выснову: лексіка ў суржыку ўзятая з рускай мовы, а вялікая частка граматыкі — з украінскай.

Паказальным з'яўляецца той факт, што суржык як моўная з'ява ўзнік менавіта ў тых рэгіёнах Украіны, дзе была шырока распаўсюджана казацкая традыцыя. У казацкіх супольнасцях у параўнанні з іншымі супольнасцямі былі значна больш распаўсюджаны моўныя запазычанні з самых розных моў, што відавочна ўзбагачала мову, але разам з тым змяняла яе.

У савецкія часы ўжыванне суржыка ў творах цэнзурай не віталася. Таму дыялект набыў прысмак контркультурнай крамолы. Вялікую папулярнасць у 1980-я гады атрымалі сатырычныя п'есы Леся Паддзеравянскага, героі якіх ужываюць, як правіла, суржык. Адпаведна называюцца і п'есы. Напрыклад, «Остановісь, мгновэньэ — ти прэкрасно!». Тэму працягнулі мастакі. Узнік накірунак графічнага суржыку, адэпты якога спрабавалі змяшаць на сваіх карцінах розныя мастацкія стылі.

А вось у часы незалежнай Украіны супраць суржыка пачаўся сапраўдны крыжовы паход. Суржык разглядаецца ўкраінскімі ўладамі як сапсаваная русізмамі ўкраінская мова, як вынік шматгадовай адсутнасці дзяржаўнасці, гвалтоўнай русіфікацыі. Ужыванне суржыка разглядаюць як першую прыкмету комплексу нацыянальнай непаўнавартаснасці.

Уладзімір Гонскі на сайце «Украінская праўда» піша: «Наш самы вялікі вораг — комплекс хахла. Не столькі вораг, колькі саўкова-маларасійскія комплексы праграміруюць дрэс-код «рускамоўнасці». Гаворка не пра багатую і прыгожую мову рускіх, а пра той ненатуральны, брыдкі суржык гарадскіх сялян, які нехта з расійскіх інтэлектуалаў назваў «моўны мазахізм».

Адпаведна, не любяць нацыяналісты і цяперашніх папулярызатараў суржыка, кшталту Веркі Сярдзючкі (артыст Андрэй Данілка).

У 2004 годзе ў Кіеве нават адбыўся імправізаваны судовы працэс над суржыкам. У ролі пракурораў выступалі мэтры філалогіі, якія наступным чынам растлумачылі карані з'явы. «Суржык — гэта калі хлопец з украінскага сяла вяртаецца з рускамоўнага войска і кажа: «Мамо, а чому так длинно варыться борщ?». Была прапанаваная і цікавая метафара: «трава — гэта мова, а пустазелле — суржык».

Па словах суржыкафобаў, суржык мае права на жыццё выключна ў літаратурных творах, каб адлюстроўваць нізкую культуру негатыўнага героя».

Увогуле, працэс закончыўся тым, што суддзя прызнаў суржык вінаватым у згвалтаванні мовы. Хаця фрагментамі гэта акцыя насіла характар вясёлага хэпінінгу. Так, напрыканцы гледачы атрымалі права падкупіць суддзю, каб ён змякчыў вердыкт для «гвалтаўніка».

Цікава, што тэзіс пра тое, што суржык — праваднік імперскай каланіяльнай палітыкі, не падзяляюць самі расійскія патрыёты. «Палітыка татальнай дэрусіфікацыі, якая праводзілася на працягу 20 гадоў на Украіне, ужо дала свае плады. Украіну захліснуў суржык. 16% насельніцтва Украіны думае на суржыку. І гэта не проста шмат, гэта пагроза нацыянальнай бяспецы, — лічыць прэзідэнт Украінскай асацыяцыі выкладчыкаў рускай мовы і літаратуры (УАПРЯЛ), прафесар Людміла Кудраўцава.

Такая нелюбоў славянафілаў да суржыка зразумелая. Суржык не толькі размывае нормы рускай мовы. Аказваецца, што ён у дадатак нясе і моцны антырускі зарад. Як сведчыць статыстыка, усвядомленае выкарыстанне суржыка ўласцівае асобам, якія ведаюць абедзве мовы, але не маюць аўтаматызму ў пераключэнні на іх выкарыстанне і пры гэтым не жадаюць пераходзіць на рускую мову. «Суржыкамоўнае» насельніцтва падчас правядзення сацыялагічных апытанняў звычайна лічыць сябе ўкраінскамоўным.

Яшчэ адзін аспект праблемы звязаны з тым, што ў Расіі ёсць свае суржыкі. Арэал ужывання суржыка выходзіць за ўкраінскае Прычарнамор'е і цэнтральныя раёны. Ён уключае ў сябе суседнія вобласці Расіі і Малдавіі. Зыходзячы з геаграфічнага месцазнаходжання, суржык мае шматлікія варыянты, напрыклад, кубанскі (так званая «балачка») або мова данскіх казакоў — так званы «гутор». Апошнім часам на хвалі росту антымаскоўскіх настрояў і ўздымання сепаратызму на перыферыі Расіі ўзніклі праекты кадыфікацыі гэтых дыялектаў. Напрыклад, праграма адраджэння кубанскага казацтва ўключае імкненне энтузіястаў дабіцца прызнання балачкі самастойнай мовай. З 2010 года ў адной са станіц Кубані нават святкуецца Дзень балачкі

Як бачым, суржык — справа вельмі комплексная, і дэбаты пра яго месца і ролю ў соцыуме ў той жа Украіне можна было б толькі вітаць. Пытанне ў тым, што пакуль апаненты ў гэтай дыскусіі адразу не настоены на пошук кампрамісу і ўстанаўленне ісціны.

Што тычыцца пагрозы «суржыкізацыі» Украіны, то, магчыма, баяцца яе не трэба, паколькі суржык і так даўно ўжо неафіцыйная дзяржаўная мова. Як жартуе вядомы кіеўскі журналіст Мікола Верасень: «Калі забараніць размаўляць суржыкам, жыццё ва Украіне спыніцца: парламент не прыме ніводнага закона, урад — пастановы, а прэзідэнт увогуле не змажа сказаць ніводнага слова».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ГЕНАДЗЬ МАСКАЛЬ



Дэпутат Вярхоўнай Рады Украіны ад аранжавых, былы міліцэйскі генерал зрабіў сабе імя на барацьбе супрацьператварэння Кіева ў «вялікі пісуар». Такі працэс, па яго словах, зараз адбываецца дзякуючы фанатам, галоўным чынам са Швецыі, якія прыехалі ў сталіцу Украіны падтрымаць сваіх улюбёнцаў. А паколькі госці слаба ведаюць украінскую культуру, яны вельмі часта задавальняюць малую патрэбу наўпрост на вуліцах, прычым нават калектыўна. Між тым, кіраўніцтва адміністрацыі сталіцы вырашыла не ўжываць у дачыненні да фанатаў адміністратыўны артыкул, які прадугледжвае за задавальненне малой патрэбы ў публічных месцах штраф. Генерал Маскаль, які агучыў праблему з высокай трыбуны парламенту, лічыць, што тут замешаная вялікая палітыка. «Украіна правраліла арганізацыю «Еўра–2012». Паглядзіце — да нас ніхто не прыехаў з высокапастаўленых гасцей. Надзея застаецца толькі на звычайных фанатаў — калі іх затрымліваць, хто застанецца заўзець? Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што міліцыя нікога не затрымлівае. Хай ужо лепш яны спраўляюць малую патрэбу, дзе хочуць, толькі застаюцца і праядаюць грошы», — кажа Маскаль. Самае смешнае, што змагар з пісуарамі — заўзяты нацыяналіст, аднак яго ахвотна цытуюць расійскія СМІ, якія пасля правалу расійскай зборнай намагаюцца хоць неяк прынізіць статус турніру.

### ВАЛЯНЦІН ЧАЎШЭСКУ



Валянцін — румынскі фізік, прыёмны сын былога прэзідэнта Румыніі Мікалая Чаўшэску і яго жонкі Алены. Ён пасля рэвалюцыі 1989 года працуе звычайным фізікам. І вось зараз Чаўшэску прапанавалі стаць кандыдатам на пасаду прэзідэнта краіны на выбарах 2014 года. Такое рашэнне прыняло кіраўніцтва Саюза румынскіх камуністаў. Камуністы лагічна разлічылі, што паколькі ўся іх праграма пабудавана на настальгіі па часах Чаўшэску, то менавіта нехта з сям'і «Генія Карпат» (адзін з тытулаў румынскага дыктатара) павінен прадстаўляць іх на выбарах. Адсюль і ідэя запрасіць у свае шэрагі Валянціна. Апошні пакуль не аказаў на запрашэнне стаць кандыдатам ад Саюза румынскіх камуністаў, які налічвае каля 10 тысяч чалавек. Увогуле, нават у камуністычныя часы Валянцін цураўся палітыкі. Ён сціпла кіраваў футбольным клубам «Сцяуа». Пасля рэвалюцыі і расстрэлу яго бацькоў ён быў арыштаваны па абвінавачванні ў падрыве нацыянальнай эканомікі, знаходзіўся пад арыштам да жніўня 1990 года. Застаецца дадаць, што ёсць шмат інсінуацый наконт таго, што Валянцін — прыёмны сын Чаўшэску.

### ГРЫГОРЫЙ ЯЎЛІНСКІ

Падчас з'езду партыі "Яблоко", які адбыўся на мінулым тыдні пад Масквой, Яўлінскі шакаваў увесь расійскі палітыкум фразай пра тое, што ў Расіі не за гарамі датэрміновыя выбары прэзідэнта і парламента. «Мы цалкам дапускаем, што новыя выбары адбудуцца не праз пяць гадоў і чатыры гады, а значна раней, і гэты тэрмін будзе залежаць ад настрою людзей і ад іх стаўлення да таго, што адбываецца ў краіне», — сказаў палітык. Словы аўтара праграмы «500 дзён» сталі бомбай, тым больш, ён даў зразумець, што валодае нейкай інсайдарскай інфармацыяй з Крамля, дзе, быццам, разумеюць, што рэжым Пуціна імкліва губляе папулярнасць і хутка трэба будзе абіраць новага лідара краіны. Таму шматлікія крамлёўскія бонзы дружна выступілі з заявамі пра тое, што ніякіх прычын для датэрміновых выбараў няма. Ускосна з імі згодныя і палітолагі. Па іх словах, Яўлінскі хоча зрабіць сабе піяр у рамках падрыхтоўкі да наступных прэзідэнцкіх выбараў. Ён не хавае, што бачыць сябе чарговым пасля Пуціна прэзідэнтам Расіі.



▸ **АВАРЫЯ**

# УКРАІНСКІ СПЕЦЫЯЛЬНЫ

## ДАКУМЕНТАЛЬНЫЯ ФРАГМЕНТЫ

Валер САНЬКО

**26 красавіка 1986 года ў тры гадзіны ночы, з вялікім спазненнем, дырэктар ЧАЭС Віктар Бруханаў нарэшце перадаў у Маскву паведамленне пра нязначны пажар на чацвёртым рэактары. Пра выбух адпаведным службам у Кіеў паведаміў нашмат пазней. Загінула два чалавекі, абстаноўка пад кантролем. Ніхто яшчэ не ведаў, што Чарнобыльскі выбух быў роўны шасцістам атамным выбухам у Хірасіме, 450 з іх прыпала на Беларусь. Раніцай на ЧАЭС з Кіева прыбыў 731-ы батальён войск грамадзянскай абароны. Геpaічны батальён.**



Збароўскі Пётр Паўлавіч. 1952–2007

Пасля ўцёкаў ад чырвонага воблака, што раптам узбухцелася, паплыло ад разгневанага рэактара, рота ліквідатараў капітана Збароўскага разбіла лагер поруч вёскі Дзіцяткі. Прывезлі новыя палаткі, бялізну, абмундзіраванне. Старое абмундзіраванне, вопратка, боты пойдуць у станцыйны магільнік.

Тэрміновая лазня ўсім. Афіцэры мыліся апошнімі. Не паспеў капітан Пётр Збароўскі апрануцца, у вялізную палатку-лазню ўваліліся генерал і палкоўнік. «Хто капітан Збароўскі?» — «Я». — «Збірайцеся, вас выклікае старшыня Урадавай камісіі». Гадзіна ночы, зранку ў Збароўскага ў роце ні крошкі. «Паснедаю, паабедаю, павячэраю — пайду, а так — не». Не запярэчылі вялікія начальнікі.

У Чарнобыльскім райкаме партыі, дзе праводзіла пасяджэнні Урадавая камісія, шмат народу, сумятня, спрэчкі, доказы. Разбіраюцца ўночы, калі і куды адводзіць мора вады пад чацвёртым рэактарам. Сівы ўладны чалавек нарэшце супыніўся поглядам на пасыльным генерале і капітане, выйшаў з-за стала прэзідыума, пацісную абодвум рукі. Прытрымаў далонь Збароўскага:

— Гатовы выконваць урадавае заданне?

— Так точна.

— Генерал растлумачыў, чаго выклікаюць?

— Ніяк не.

Сілаеў тлумачыць мякчэй:

— Збароўскі, адкачвайце ваду ў сховішча вадкіх паліўных адходаў! — Паўглядаўся ў ваеннага секундаў колькі. — Вы слухалі, чулі… Другога выйсця няма.

— Задача невыканальная, таварыш старшыня Урадавай камісіі, — выструнены, нягеглы, у мятай вопратцы капітан мужна нязгодніць аднаму з кіраўнікоў дзяржавы СССР, нязгібна паўтарае тое ж: немагчыма выканаць заданне.

— Вольна, капітан. Тлумачце.

— Да сховішча ад рэактара чатырыста метраў. Шлангі пракладваць зручна. Вадзе ісці можна, але поруч чацвёртага блока дзве тысячы васемсот рэнтгенаў, бліз сховішча — меней за тысячу. За паездку туды — назад і адну вылазку я спалю людзей. Усіх воінаў роты — за гадзіну. Немагчыма такое.

— Падлікі ваенных маскоўскіх дазіметрыстаў дакладныя. І мы мералі, дадаткова. Я перакананы, капітан Збароўскі памыляецца, — паднімаецца генерал-маёр Кітаеў, адказны за ваенную дазіметрычную разведку на ЧАЭС, ва ўсіх трох сектарах/зонах, па-за імі.

У картачку капітану, як астатнім воінам роты, штодня запісвалі 19–19,5 рэнтгенаў. Капітан не пратэставаў супраць хлусні. Не ведаў. А каб ведаў, не было часу на пратэсты. Ён выконваў урадавае заданне, рабіў тое, што без яго ніхто ў тысячным Чарнобылі і ваколлі зрабіць не мог. Гладыятарнічаў.

— Што вам не зразумела? З чацвёртага блока перакачаць ваду ў сховішча вадкіх паліўных адходаў. Адлегласць за трыста метраў, — тое ж заводзіць недатумкачу ротнаму генерал-маёр Кітаеў. — Усё мы разлічылі, пракладку шлангаў у сховішча прадазімерылі маскоўскія спецыялісты.

На той жа ноце нязгоды выструнены капітан Збароўскі паўторна адмоўнічае: «Побліз блока 2800 рэнтгенаў, часта болей 3–4 тысяч, каля сховішча — за тысячу. Мералі ўкраінскія спецыялісты і мы».

Мужнасць праўдалюба ацаніў старшыня, распарадзіўся: Кітаеву, галоўнаму інжынеру, двум дазіметрыстам тэрмінова выехаць на аб'ект. У браневіку.

— Другі раз быў я там з капітанам Акімавым. Вымяралі. Ваенныя дазіметры змяншаюць дозу да сарака працэнтаў. Яна там фактычна большая, — адказвае Збароўскі Кітаеву.

Іван Сцяпанавіч Сілаеў, намеснік старшыні Савета Міністраў СССР, старшыня Урадавай камісіі пасля Шчарбініка, узняўся над сталом, акідвае ваенных, цывільных, садзіцца, глуха паўторна загадвае: галоўнаму інжынеру ЧАЭС тэрмінова ўзяць двух кемкіх дазіметрыстаў, генерала Кітаева, капітана Збароўскага, спраўдзіць замеры дозаў. Маскоўскія спецыялісты звычайна не памыляюцца, аднак усё можа быць.

Вадзіцель яфрэйтар Клімовіч раз-пораз пытаў у капітана, дзе паварочваць сярод возера пагнутых труб, бетону, хламу.

Дазіметрычны прыбор унутры браневіка з электроннай лічбавай шкалой абыякава лічыць дозы — 200, 350, 500, 600. Метраў сто дваццаць да чацвёртага блока. Разумны генерал Кітаеў парывіста хапаецца за адзін з чатырох рычагоў хуткасцяў, тузае. Хоча ўключыць заднюю перадачу. Пайшло яно ўсё… Назад, толькі назад. Генерал не проста кантралюе ЧАЭСную дазіметрыю — выдатна разбіраецца ў дозах.

— Таварыш капітан, скажыце яму! Нельга хапаць рычагі. Абломяцца… — просіцца па-беларуску яфрэйтар Клімовіч. У цяжкую хвіліну кожны ўспамінае Бога, маму, словы роднай мовы.

— Назад! Згодны, згодны з вашымі падлікамі! — Генерала няма, ёсць размяклая мужчынская постаць у генеральскім мундзіры.

Старшыня Урадавай камісіі адзначыў, што ім спатрэбілася не трыццаць і не пяцьдзесят хвілін, усяго дваццаць дзве.

— Таварыш генерал-маёр загадаў вярнуць назад. Двойчы.

Сярод гармідарнасці галоўнага пакоя ў райкаме партыі, крыху меншага за залу пасяджэнняў, увокамгненілася цішыня, налліваецца сілаю абвеснага дажджу.

— Там радыяцыя пастаянная, не змяншаецца, — капітан далей не асмельваецца працягваць.

— Чаму, па-вашаму, дозы генерала ў дваццаць разоў меншыя? — Сілаеў не мяккі і зычлівы — цвёрды камень.

— Яго людзі там не былі. Ён таксама. Так думаецца.

…Генерал арміі Герасімаў імклівіць да генерал-маёра Кітаева, зрывае пагон. Цішыня выбухае громам. Мацюкі сеюцца ў пакоі. Фуражка Кітаева на падлозе.

…Пад блокам рэактара — тэхналагічны канал. Каб дабрацца да яго, патрэбна прабіць дзірку ў тоўстай бетоннай сцяне. Цяжка, але зробім хутка. Прапановы розныя: прабіць сценку і канал стрэлам з гарматы ці гранатамёта, прапаліць кумулятыўнаю мінай.

А што стане з рэактарам пасля такой стральбы?

Капітану Збароўскаму даручылі прымаць рашэнне на месцы. У роце вырашылі не рызыкаваць, прабіваць дзірку ўручную.

Пройдзе час — у газетах зняпраўдзяць, як тады пісалі пра многае, звязанае з выбухам на ЧАЭС. На пытанне Збароўскага да воінаў пастроенай роты, хто добраахвотнікам пойдзе прабіваць уручную дзірку ў тоўстай бетоннай тунельнай сцяне неўздалёк рэактара, напішуць — выйшла наперад уся рота. Напішуць хлусню. Ступілі ўсяго шэсць чалавек — сяржанты Іван Максімчук, Павел Аўдзееў, яфрэйтары Ігар Маладушаў, Аляксандр Коршунаў, лейтэнант Генадзь Хацаў, сам Збароўскі.

На бронетранспарцёры прабраліся да тунельнай сцяны. Узровень радыяцыі велізарны. Збароўскі хуценька вылічыў — там чалавеку можна ў суткі працаваць не болей адзінаццаці хвілін. Воіны выбягалі з пад'ехалага БТРа ўдваіх, білі сцяну кувалдамі, дзяўблі. Удваіх, калі хто зняможацца, упадзе, паплечнік выцягне або пакажа іншым месца яго непрытомнасці.

Прабілі. Цемра, смурод.

… Спаць капітану даводзілася ўрыўкамі, па некалькі хвілінаў. Ужо не памятаў, колькі разоў страшэнна стомлены быў на Урадавай камісіі. У часе чарговага начнога даклада ўрэзаўся ў свядомасць паўночны званок Гарбачова Сілаеву. Голас чуўся па ўсім пакоі.

«Прынялі рашэнне, кудой пракладваць шлангі? А куды дзяваць ваду? У мяне тут рабочая група, сядзім, думаем. Думайце і вы. Прашу, спяшайцеся…»

Старшыня Урадавай камісіі ўзняўся, прыняў строгую стойку, рукі па швах: «Перад вамі дзяржаўная задача, капітан Збароўскі. Тэрмінова і хутка адкачаць ваду з-пад чацвёртага блока. («Ёсць!») Гатоўнасць да працы — дзевяць раніцы».

Удакладненне дэталяў. Парады спецыялістаў.

На адыходзе капітана адзін з кіраўнікоў дзяржавы СССР прылюдна абдымае яго: «Украіна вялікая, СССР большы. Адзін ты, сынок, можаш выручыць нас усіх, адкачаць ваду».

Капітан Збароўскі, абраныя ім афіцэры і салдаты не ведалі, што яны ратавалі не Украіну, Беларусь, Расію — усю планету. Калі б тысячатонны рэактар, прыборы, абсталяванне шухнулі ў мора накопленай пад імі вады, ад удару, ціску воблакаў пары, іскроўнасці правадоў узарваўся б трэці рэактар, ён быў пад адным дахам з чацвёртым, узляцелі б другі, першы рэактары ЧАЭС, узбунтаваліся рэшткі гаручага з чацвёртага. Катастрофа з маленькага раёна Украіны ператварылася б у сусветную.

Збароўскі выходзіць абамлелы. Уторыцца сто разоў думанае. Смяротэльная доза для чалавека — 500–600 рэнтгенаў. Поруч сцяны рэактара — 2500–2800 рэнтгенаў. Тут чалавеку можна знаходзіцца да 2–3 хвілінаў. Паслаць армію і пагоны падалей? Сам жыццё сабе ніхто не можа карацaverage — грэх вялікі. Разгубленасць у капітана, разгубленасць.

…У сталовай нампатэх палка палкоўнік Букатынскі, генерал Шматко распытвалі дзяржаўнага чалавека Збароўскага, шкадавалі, многае падказалі смяротніку. Згадзіліся: лепш за самога Збароўскага ніхто не падбярэ неабходнае — станцыі, трубы, машыны, людзей.

Камандзір суседняй пажарнай роты капітан Мікалай Акімаў, цяпер намеснік Збароўскага, камандзіры ўзводаў лейтэнанты Вадзім Злобін і Генадзь Хацаў, даўнія сябры, выканальныя ўмелыя спецыялісты, згадзіліся быць у камандзе Збароўскага пры адпампоўванні вады.

Ва ўсіх газетах і выданнях таго часу напісана, што адпампоўванне радыеактыўнай вады з-пад чацвёртага і трэцяга энергаблокаў было даручана пажарным. Яны выдатна справіліся.

Гэту праўду і няпраўду Пётр Паўлавіч Збароўскі, капітан, паляк, сямейны чалавек, бацька сына, ведае, не абвяргае. У аднапартыйнай дзяржаве, перакананы, праўду даказаць немагчыма, нават самую дробную, усім ясную. Яго вопыт пацвярджаў гэта.

Два капітаны — камандзір новасфармаванай роты Збароўскі і яго намеснік Акімаў — азіралі рэзервуары далекавата за тэрыторыяй станцыі, за паўтара кіламетра. Метрах у ста ад Прыпяці — два басейны, адзін пусты, другі напалову запоўнены чыстай вадой. Радыяцыйнасць невялікая, да 0,5 рэнтгена. Ёмістасць кожнага рэзервуара — за дваццаць пяць тысяч кубаметраў. З напалову запоўненага чыстую ваду лёгка адкачаць у Прыпяць. Раніцай яшчэ раз усё агледзелі.

Іван Сілаеў тут жа звязаўся з Масквой, папрасіў прапрацаваць варыянт капітана Збароўскага: знойдзена месца зліву вады з-пад рэактара; ці варта ваду ў рэзервуары заліваць негаручым тэхнічным маслам, каб не выпаралася, не разносілася радыяцыя. «Ваенны радавы інжынер прапанаваў, капітан Збароўскі», — тлумачыць Сілаеў у трубку.

Пётр Паўлавіч Збароўскі не здагадваўся, колькім палкоўніцка-генеральскім пагонам і навуковым ступеням прынёс прыніжэнняў яго розум, як стузанулася ў высокапасаднікаў звычайнае недабразычча да таленавітага чалавека з нізоў, як сённяшняе аргументаванае паведамленне горка адаб'ецца на далейшым яго жыцці. Паўторыцца ваенная эпапея з капітанам Марынеску, катораму Героя Савецкага Саюза прысвояць нашмат пазней пасля ваенных падводных подзвігаў і цывільнай пасляваеннай смерці.

Перапынак. Паўгалодны капітан пабег шукаць, дзе перакусіць.

За двое сутак многія ў батальёне, палку, усіх трох зонах уведалі, што на Збароўскага ўскладзена страшэннай адказнасці і радыеактыўнасці праца, давалі смяротніку парады і падказкі самыя

# ЎДАРНЫ БАТАЛЬЁН

зычлівыя, як заўжды невінаватаму абняшчасніку.

Задумаўся, чаму маскоўскія і кіеўскія ўмельцы запланавалі перакачваць ваду па нягнуткіх металічных трубах. У ваеннай тэхніці краіны няма іншай магчымасці, але ў цывільных пажарных насосных станцыях (ПНС–110) шлангі і рукаўныя ходы гнуткія, прадукцыйнасць у два разы большая, чым у ваенных непаваротных насосаў.

Са строю пажарных згадзіўся ісці на дапамогу ваенным адкачваць ваду з-пад чацвёртага рэактара разлік маёра Нагаеўскага з Белай Царквы, пяць чалавек. Праз гадзіну дадаўся разлік з Жытоміра, пяць чалавек.

У гадзіну ночы Збароўскі даклаў сакратару Сілаева пра поўную гатоўнасць станцыяў да выезду. Той удакладняўся ў старшыні.

Чакайце каманды... Раніцай — чакайце. У абед — чакайце каманды.

Тым часам зранку да абеду Збароўскі мусіў вырашаць нечаканую перашкоду. На яе ніхто дасюль не звярнуў увагі. Да развалінаў чацвёртага рэактара пад'ехаць можна, да ўцалелых сценаў чацвёртага, да любога з трох астатніх рэактараў пад'езду/падыходу не было. Строгую ахову дапаўнялі бетонныя шэрагі, металічная агароджа. Па дроце ішоў ток.

...Цэлых паўдня прайшло бюракратычнай валтузні. Вырашалі дробязныя пытанні — адключэнне напружання на дроце агароджы патрэбнага ўчастка, дазволу праезду праз яго двух бэтээраў, гусенічнага браневіка, установак ПНС–110. Тэлефонныя размовы, абмен тэлеграмамі. Спешка.

Усё застапарылася.

Каманда Збароўскага, разлікі пажарных насосных станцыяў не ведалі складанасці абстаноўкі над Украінай, Беларуссю, Расіяй. Над Кіевам віселі каманды на высяленне ўсяго горада. Прыасветленыя сем'і начальнікаў і падначальнікаў тры дні самавалам выязджалі з горада на чым маглі. Чакаўся выбух рэактара ў Чарнобылі. Калаціліся ўсе — установы, народ.

У Мінску таксама неспакойна. Два дні шэптамі і адкрыта ў народзе пераказвалася — можа быць выбух. Слюнькову пазваніў Лігачоў: што можаце, рабіце, рыхтуйцеся. На ЧАЭС можа быць нашмат большы выбух.

Вечарам 5 мая капітану Збароўскаму нарэшце паступіла каманда: «Наперад! Хутчэй, браток, не марудзь, Просім, хутчэй».

Нарыхтаваныя на подзвіг і барацьбу ваенна-пажарныя разлікі пад'ехалі да бетоннага плоту станцыі. Ніякіх праходаў для тэхнікі не зроблена. Абяцалі — і не зрабілі. Шум нядаўніх перагавораў ветрам каціўся ўверсе, над кронамі і вершалінамі дрэваў, да ляснога травастою нішто не дайшло.

Змікітлівасць і жыццёвы вопыт поўнядь Пятра Збароўскага. Спацярожна кідае кусок дроту на адключаную ад току агароджу. Сузгадненні вялікіх начальнікаў адразу сталі бачныя разлікам — нуль! Яшчэ раз цана ім — нуль.

Капітан Збароўскі дае каманду: «Хлопцы, слухаць мяне!» Так каравульныя не ўчуйваюцца ў каманду старшага па каравуле, як прыехалыя ліквідатары і пажарнікі ў словы капітана. Ветлівага і вытрыманага ціхмянца Збароўскага не пазнаць. Аднекуль узялася рашучасць: «Бранявік на сценку агароджы! На хуткасці».

У вырашальную хвіліну рашучыя словы напплылі самі. Ваенныя і пажарнікі выканаюць каманду гэтага чалавека, якую б ні даў. Ведае ён, ведаюць астатнія.

Бэтээрам абвалілі бетонныя слупы і пліты агароджы.

Каравульныя звоняць, крычаць, супыняюць. Стральбой не грозяць.

Другі бранявік, на гусеніцах, накіравалі на драцяныя агароджы.

— Вадзіцель, Клімовіч! Уключай хуткасць, а сам выкульвайся. Барджэй. Пускай яго ўдоўж, па дроце. Не папярок — у даўжыню, па агароджы.

Гусенічны бранявік пайшоў мяць і рваць электрычны дрот, валіць слупы. Іскры, маланкі, пыл. Гарыць трава, зямля. Дыміць бранявік, тракі гусеніцаў ядуць дрот, валяць слупкі.

Прарвалі ўчастак ушыркі метраў за дваццаць. Вокрыкі адабрэння Пётр Збароўскі чуе і не чуе. Камандуе. Дрот не іскрыць, зусім не іскрыць. Адчайны адчайна кідае на дрот дошкі, ступае на іх.

Прабілі другі праход у агароджы. Усё на імпэце прарыву, на сіле высокай справы вялікіх людзей. Замёр бранявік.

Урэшце сталі займацца непасрэдна працай, укладвалі трубаводы. Прайсці паўтара кіламетра складана ў любых умовах, радыяцыйных тым болей.

Расчышчалі ад завалаў дарогу. Камбінавалі, паспрабавалі пажарныя шлангі злучаць з ваеннымі трубамі. Выходзіла кепска, але штосьці выходзіла. Злучылі муфты, умацавалі скрэпы. Праверылі звязку. Вада біла, дзюрыла са злучэння. Адмовіліся ад трубаў.

Кожныя 20–30 метраў крапілі муфты.

Натрапіўся ўчастак асабліва небяспечны: 250–600 рэнтгенаў. Бліжэй да першага блока рэзкі спад радыеактыўнасці — 80–50–40–30 рэнтгенаў.

У тунелі ўстанаўлівалі першую насосную станцыю. Гусенічным браневіком вырвалі лесвіцу — замінала апусціць усмоктвальны рукаў. Адцягнулі лесвіцу. У браневіку нешта лопнула, не заводзіцца.

Запусцілі насос. Вада пайшла. Запусцілі другі. Вада пайшла і па ім. Па трэцім. Адзін рукаў перастаў працаваць. Не ўздыхае і ўсё тут.

Збароўскі з Акімавым подбегам у тунель, разбірацца. «Пялёсткі» з твараў не здымаюць. Усе ў скляпеннях, калідорах, тунелях і тут хадзілі па двое — адзін самлее, другі выцягне або паведаміць выратавальнікам.

Тунель усё паўней у дыме. Адкрылі вароты. Радыяцыя падскочыла ў дзесяць разоў — 180 рэнтгенаў.

Афіцэры трымалі вароты прыадчыненымі. Адна прабежка ад варотаў да помпаў і назад — дадатковы захоп на сябе 3–4 рэнтгенаў. Дзявацца няма куды. Па чарзе праверялі шлангі, помпы, маторы. Рамантавалі сумесна з майстрамі. Кожныя тры з палавай гадзіны далівалі бензін.

Адна з чатырох станцыяў канчаткова сапсавалася. Не замянілі адразу, не было каму шукаць паломку.

На паверхні нейкія разведчыкі на танку пад'ехалі да чацвёртага рэактара, пашкодзілі трубаправоды. З верталёта паведамляюць: бачаць вадзяныя фантаны.

У камандзе Збароўскага з дваццаці засталося шэсць чалавек. У засталых таксама болей двух дзясяткаў рэнтгенаў. Ледзь дабіліся папаўнення. Ідуць салдацікі і афіцэры з неахвотаю. Баяцца. Уведалі пра лёс вывезеных у Маскву пажарнікаў, што памерлі ці паміраюць, пра гаркочную соладзь працы ў камандзе капітана Збароўскага, пра перапады радыяцыі на мясцінах выкачвання вады — справядліва выкручваюцца.

Кожную гадзіну каманда Збароўскага замярае ўзровень радыяцыі, тэмпературу вады ў басейне, дакладвае Сілаеву, ноччу яго сакратарам.

У адзін з першых асабістых дакладаў самому старшыні капітан папрасіў прыслаць яшчэ адзін бранявік.

— Трох мала?

Збароўскі замяўся. Няма як перасоўвацца, цягацца са шлангамі ўручную цяжка. Ліквідатары баяцца перанапружыць ПНСы.

— Два браневікі спалілі. Верагодна. Не працуюць.

— Тлумачце.

— Прарывалі сценку і драцяную агароджу. Ток па дроце ішоў, кіеўцы не адключылі. Скамандаваў вадзіцелю ўключыць хуткасць, накіраваць машыну па драцяной лініі, удоўжкі. Ірвалі.

Бранявік рваў, у канцы стаў. Намёртва. Не працуе. Згарэў другі. Прабачце. Іначай не выходзіла, не маглі.

— Капітан, не выбачайся. Вы не асягаеце, колькі тэхнікі мы выкідваем. Вывозім на магільнікі. Яшчэ раз дзякую вам, капітан.

Дзве бронеаўтамашыны, бронетранспарцёр і бранявік на гусенічным ходзе, прыбылі да іх праз паўтары гадзіны.

Хадзілі да помпаў ліквідатары праз першы, другі і трэці рэактары. Па двое.

Мяняліся людзі, змены. Зусім рэдка адыходзіў ад помпаў капітан Збароўскі. Яго аўтарытэт рос паўсюдна. Усім у батальёне, палку, сектары было ясна: не проста герой — двойчы смяротнік.

...Уночы з 7 на 8 мая іх полк змяніў адэскі полк.

Болей двух сутак капітан Збароўскі і запаснікі з трэцяй роты 731-га хімспецбатальёна адкачвалі ваду. Знізілі яе ўзровень з шасці з лішнім метраў да 70 сантыметраў. Спіс дваццаці пяці добраахвотнікаў з гэтай роты шырока вядомы. Яны атрымалі падзякі, грашовыя прэміі — па тысячы рублёў. Збароўскаму — таксама падзяка і тысяча рублёў.

На раніцу капітана Збароўскага выклікалі на Урадавую камісію. Форма яго свяцілася яшчэ ў першыя гадзіны адкачвання вады: замяніў — выкінуў, замяніў — выкінуў; капітан два разы на дзень пры магчымасці салдатам, афіцэрам і сабе мяняў белыя штаны і пінжак, станцыйную вопратку, кірзачы.

У кабінеце чалавек дваццаць. Як і ў першую сустрэчу, Іван Сцяпанавіч падняўся з-за стала, стаў па стойцы «смірна»:

— Ад імя Савецкага Урада і ЦК КПСС за ўзорнае выкананне асабліва важнага задання аб'яўляю вам падзяку.

— Служу Савецкаму Саюзу!

— Вы — украінскі спецыяльны ўдарны батальён. Выдатна спрацавалі.

— Служым Савецкаму Саюзу!

— Падыдзі, сынок.

Сілаеў ведаў, адкуль прыйшоў капітан, як фаніць яго цела і вопратка, не спужаўся. Пацiснуў руку, абняў.

— Чым мог тут, я вас аддзякаваў. Астатняе — за Урадам. Пра вас даложаць, абавязкова даложаць.

Сілаеў убачыў бела-белы твар капітана, ведаў пра тры страты прытомнасці Збароўскага бліз помпаў, у тым ліку гэтай ноччу пры дакладзе ва Урадавую камісію, непасрэдна яму.

— А цяпер у шпіталь. Усю роту. Неадкладна.

...У шпіталі Збароўскаму тройчы пераливалі кроў. Пасля кожнага пералівання хворага трэсла, як бліз чацвёртага рэактара. Тэмпература высокая, а целу холадна: у мышцах, касцях, руках і нагах — лёд, арктычны мароз.

Аналізы за аналізамі.

У Кіеве паўсюдна размовы, што капітана Збароўскага прадставілі да звання героя Савецкага Саюза. У штабах, шпіталях. Да Збароўскага чуткі даходзілі, ніякай рэакцыі. Нікому ад яго ні слова, тым болей просьбы-напаміну. Баяўся сурочыць.

Каму з медыкаў і начальнікаў ні гаварыў, што яго індывідуальны ваенны дазіметр разлічаны на пяцьдзесят рэнтгенаў, зашкаліў да пачатку адкачвання вады з-пад рэактара — не верылі. Ён, як і многія афіцэры, карыстаўся прыборамі персаналу станцыі, лепшымі — медыкі не верылі. Звычайныя ваенныя дазіметры часта змяншаюць паказчыкі ўдвая ў параўнанні з цывільнымі — не верылі. Асобным салдатам перапілі дозу абпраменьвання, атрымалася ўтрая болей, чым запісана ва ўліковай картачцы — не верылі.

Пётр Збароўскі пасля ўважнага стаўлення да сябе на пасяджэннях Урадавай камісіі сутыкнуўся з побытавай абыякавасцю, нават хціваасцю. Прычынаў не ведаў. Засмуціўся, калі падсумаваў выказванні асобных кадравікоў: мажліва, разнарадкі для грамадзянскай абароны на Героя не было. Даўным-даўно камандзір узвода Збароўскі вяртаўся дадому, хуліганы збілі, абрабавалі, партбілет скралі, а неспраўядлівыя савецкія разборы-праверкі абярнуліся супраць пацярпелага, вымову на службе атрымаў, дванаццаць гадоў пасля «сядзеў на ўзводзе». Нацыянальнасць не тая — паляк. Генералы не забылі сваю прыніжанасць на пасяджэннях Урадавай камісіі; праявілася зайздрасць асцярожненькіх і тупых да мужных і адважных. Маўклівае жаданне зацерці подзвіг капітана Грамадзянскай абароны; яшчэ болей узвялічыць істотную дапамогу арміі. Верталётчыкі, акадэмік Лягаса, генерал-маёр Тараканаў таксама адважнічалі, нахваталі радыеактыўнасці, званне героя ім не прысвоілі. Цывільным і ваенным палітыкам у Кіеве і Маскве было не да асобнага капітана, яны змяншалі ўвагу свету да чарнобыльства, бо чым болей герояў, тым страшнейшая аварыя, а яе ўсямогна зніжалі. У тагачаснай кругаверці не знайшлося справядліўца палкоўніка ці генерала, каторы змог бы нагадаць міністру, урадаўцам, таму ж Сілаеву пра ўчынкі чалавека, якому варта пры жыцці ставіць залаты помнік.

Змікітлівы розум, вынаходлівасць і рашучасць Пятра Збароўскага дазволілі сцэментаваць каманду, знайсці месца адпампоўвання вады з-пад рэактара, спосаб і, асноўнае, хуткасць пампоўкі. Своечасовай, неадкладнай ні на хвіліну.

Узнагародай стала замоўчванне яго подзвігаў.

Пётр Паўлавіч Збароўскі не крыўдаваў, калі ў снежні 1986 года ўзнагароджвалі чарнобыльцаў, а з іх палка нікога не адзначылі; калі ў лютым 1987 года 64 чалавекі з палка атрымалі ўзнагароды, а яго і камандзіраў палка і батальёна палкоўнікаў Грабянюка і Босага ў спісках узнагароджаных не было.

Праўдалюб Сашка Лагачоў, не Сашка, а Санька, Аляксандр, Алеська, пачаў дабівацца праўды ў ваенных міністраў Кіева і Масквы, генсека Гарбачова.

Смех і грэх — аказваецца, подзвіг героя даўно патрэбна адзначыць, украінскія ваенныя і чарнобыльскія начальнікі схамянуліся, выправілі промах. Штабныя таксама паправілі допушчаную бюракратычную абыякавасць, уключылі яго прозвішча ў чарговы спіс. У маі 1987 прыйшла ўзнагарода і капітану Збароўскаму: ордэн Чырвонай Зоркі «...за асваенне новай тэхнікі і зброі».

Маёру Пятру Збароўскаму стала зусім прыкра і мошатна ад савецкай «праўды», калі стараннікі рана звольнілі ў запас.

Аддзячыла ўлада герою! «Выгналі з арміі героя, каб не мянтрэжыў душы недалёкім, тупым, зайздросным», — са злосцю на былую савецкую сістэму і яе выкармышаў у краіне рэзалі ліквідатары ўкраінскага спецыяльнага ўдарнага батальёна, пісаў намеснік камандзіра батальёна Уладзімір Гудаў. Не здагадваліся, што паўтаралі жаллівыя словы беларускіх забытых ліквідатараў.

Нават званне падпалкоўніка Пятру Паўлавічу Збароўскаму прысвоілі не па-людску — калі быў цывільным. Яго сыну, афіцэру, горкі лёс бацькі пёк, пячэ, будзе пячы. З пяці батальёнаўцаў праз дваццаць гадоў жывым застанецца адзін.

«Слава героям!» Гэтыя словы павінны быць не на плакатах і ў прамовах, а на яве. Так думаюць малады Збароўскі і рэдкія жывыя ліквідатары ўкраінскага ўдарнага спецыяльнага батальёна. Цяжка думаюць...

*Усе лічбы, факты — з адкрытых публікацый, несакрэтных архіваў, паведамленняў ліквідатараў.*

ПРЭМІЯ

# СВАБОДНЫЯ САМЫЯ — ВЯЗНІ СВАБОДЫ

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**Словы, якія сталі назвай гэтага артыкула, напісаны народным паэтам Беларусі Рыгорам Барадуліным спецыяльна да гэтай падзеі некалькі тыдняў таму, а пачну я з фразы не менш знакамітага паэта і таксама народнага па сутнасці (у афіцыйных паперах ён толькі заслужаны дзеяч мастацтваў) Генадзя Бураўкіна: «Мы прыязджаем сюды для таго, каб вучыцца ў Быкава».**

Адбываецца такая вучоба ўжо пяты раз, і — як сказалі б у недалёкія часы — «гэта стала сапраўднай падзеяй». Маецца на ўвазе чарговае ўручэнне прэміі імя Васіля Быкава «За свабоду думкі». У назве — адказ на пытанне пра тое, у чым сутнасць вучобы. Як слушна падмеціў Генадзь Мікалаевіч Бураўкін, у Быкава трэба вучыцца свабодна думаць.

Сёлета рух «За свабоду» вырашыў, што так думаюць Алесь Белакоз (краязнаўца, стваральнік і шматгадовы дырэктар незвычайнага этнаграфічна-краязнаўчага музея ў вёсцы Гудзевічы (Мастоўскі раён Гродзенскай вобласці), настаўнік беларускай мовы) і музыка Лявон Вольскі. Апошняга зараз усе ведаюць як лідара гурта «Крамбамбуля», але кожны мае на ўвазе стварэнне легендарнага «N.R.M.»

Адразу расчарую тых, хто паспяшаўся зласліваць аўтара на памылцы. Усе добра ведаюць, што названы вышэй рух толькі ўручае свае прэміі, а называе лаўрэатаў журы, створанае з пераможцаў былых гадоў. Штогод іх колькасць расце, і пакуль гэта магчыма, я з задавальненнем назаву кожнага — народны паэт Рыгор Барадулін, вядомы пісьменнік Уладзімір Арлоў, палітык Павал Севярынец, мастак Алесь Пушкін, краязнаўца, заснавальніца цудоўнай карціннай галерэі і арганізатар легендарных мастацкіх пленэраў Ада Райчонак і былы палітвязень, стаўшы палітыкам паэт Уладзімір Някляеў.

Нагадаю, што прэмія «За свабоду думкі» была заснаваная рухам «За Свабоду» на ўзор прэміі «За свабоду» імя Сахарава, якой у 2006 годзе Еўрапарламентам быў узнагароджаны Аляксандр Мілінкевіч. Цырымонія, як звычайна, больш нагадвае сяброўскую імпрэзу, праходзіць у вёсцы Бычкі Ушацкага раёна Віцебскай вобласці, дзе 19 чэрвеня 1924 года і нарадзіўся




Прэмію атрымаў Алесь Белакоз




Валянціна Быкава, сястра Васіля Быкава

адзін з самых галоўных беларускіх вальнадумцаў ХХ стагоддзя пісьменнік Васіль Быкаў.

Пасля падобнага пафасу вельмі цяжка казаць пра лыжку дзёгцю, але без гэтага ніяк не абысціся. Як і многіх, мяне вельмі ўзрушылі словы кіраўніка Віцебскай арганізацыі ТБМ Іосіфа Навумчыка пра тое, што расійскія журналісты, што пабывалі ў доме-музеі Васіля Быкава, вельмі здзіўляліся адносінамі нашай дзяржавы да свайго славутага сына. І з імі вельмі цяжка не пагадзіцца, бо, на мой погляд, для сапраўднага ўшанавання памяці чалавека мала назваць яго прозвішчам школьную піянерскую дружыну... У гэтай справе трэба не звычайная для нашых часоў «паказуха», а шчырасць.

І не толькі з боку ўладаў. У сваім выступе І. Навумчык расказаў пра пачатак падрыхтоўкі да 90-годдзя Васіля Быкава. Вельмі прыемна, што да падзеі (рэдкае выключэнне) паважаныя людзі пачынаюць рыхтавацца за два гады да «часу Х», але не менш прыемна будзе ўбачыць і канкрэтныя вынікі.

Скончыць жа гэтыя кароткія нататкі хацелася б радкамі з яшчэ аднаго верша, які напісаў паэт (а не толькі бацька палітвязня) Кастусь Севярынец:

*«Бо ў мілосці*
*Ці ў бядзе,*
*Праз гады*
*І стому,*
*Ёсць Дарога,*
*Што вядзе*
*З дому і дадому».*

РЭПАРТАЖ З ГЛЫБІНКІ

# ХМЯЛЬНІЦА: ПА СЛЯДАХ НАПАЛЕОНАЎСКІХ ВОЙСКАЎ

Сяргей ЧЫГРЫН

**Кіламетраў 15 ад Слоніма знаходзіцца вёска Хмяльніца. Яна стаіць убаку ад дарогі, калі ехаць са Слоніма на Ружаны. Дзесяць гадоў таму ў вёсцы пражывала каля сотні жыхароў, а цяпер — напалову менш. Ды і вёска, як кажуць у народзе, неперспектыўная.**





Гісторыя вёскі пачынаецца дзесьці з XVI стагоддзя. Была вёска ўласнасцю Валовічаў, потым у складзе Расійскай імперыі, потым пад Польшчай, а падчас Другой сусветнай вайны немцы і савецкія партызаны знішчылі 26 двароў і 18 яе жыхароў.

Часам вёска Хмяльніца Слонімскага павета згадваецца ў гісторыі беларускай літаратуры. Справа ў тым, што ў 1912–1915 гадах у хмяльніцкай пачатковай школе працаваў настаўнікам вядомы заходнебеларускі грамадска-палітычны дзеяч, літаратуразнавец, паэт і педагог Ігнат Дварчанін (1895–1937), які пазней скончыць Карлаў універсітэт у Празе і абароніць доктарскую дысертацыю «Францыск Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве».

У апошнія красавіцкія дні я вырашыў наведаць Хмяльніцу. Мяне цікавілі сляды напалеонаўскай арміі, якая ў 1812 годзе наступала і адступала праз Хмяльніцу. Па вёсцы ішлі аўстрыйскія і прускія жаўнеры, якія ваявалі на баку Напалеона Банапарта.

Вёска Хмяльніца раскідана па невялікіх хутарках-вуліцах. Самая першая вуліца называецца Раманаўская. Яна самая старая, і менавіта па ёй крочылі 200 гадоў таму аўстрыякі і прусакі. На гэтай вуліцы толькі 6 хат. Каля адной з іх на лаўцы сядзелі вясковыя пенсіянеркі. Спыняюся, вітаюся з жанчынамі. Адна з іх прапаноўвае купіць бульбы, бо шмат засталося яшчэ з восені. Але тэма бульбы ў нас хутка адыходзіць на другі план. На першы план пераходзіць гістарычная тэма. «А чаму ваша вуліца называецца Раманаўская?» — пытаюся ў жанчын. «Таму што некалі на ёй жыў нейкі Раман, таму і называецца Раманаўская», — адказваюць жанчына. Сапраўды так. А каб жыў нехта Пятро, дык была б Пятроўская…

— А ці чулі вы, жанчынкі, пра вайну з французамі? — зноў экзаменую вяскоўцаў.

— А як жа ж!.. Вунь там знаходзяцца старыя каменныя могілкі. Яны ўсе зараслі кустамі. Тых французаў каля нашай Хмяльніцы некалі шмат палягло. І хавалі іх там, а замест помнікаў клалі толькі камяні. А на адным камні нават захаваўся надпіс, ён каля дачнага доміка знаходзіцца, тут, у вёсцы, пад'едзьце туды, — параілі пенсіянеркі.

Еду шукаць камень з надпісам. У канцы вёскі каля дачнай прыбудовы убачыў. На ім выбіты прозвішчы і ў самым нізе каменя добра відаць пазнаку — 1813 год. Але чаму 1813, а не 1812? Магчыма, камень пэўны час шліфаваўся, набіваліся прозвішчы і лічбы. Пакуль гэта ўсё ў ручную рабілася і камень ставіўся — прайшоў час.

Дзіўна тое, што гэты гістарычны камень нехта з дачнікаў прыстасаваў замест шула. І веснічкі камень трымае, і плот. Што толькі не прыдумаюць нашы людзі. Ад гэтага «наватарства» нават горка і балюча бывае.

Калі вяртаўся ад старога каменя назад, сустрэў вяскоўца Колю, так ён сябе назваў. Сказаў Колю, хто я такі і што шукаю. «А ў мяне ёсць штык, я яго знайшоў на французскім могільніку. Ён проста быў усаджаны ў зямлю. Ці не з вінтоўкі гэты штык якога-небудзь француза?» — спытаўся Коля. «Магчыма…» — адказаў вяскоўцу, трымаючы старую рэч у руках.

Колю са штыком я сфатаграфаваў і паціху пачаў развітвацца з Раманаўскай вуліцай Хмяльніцы і яе жыхарамі. Па дарозе на Слонім сфатаграфаваў старыя каменныя могілкі, дзе нашлі спачын сотні жаўнераў з Прусіі і Аўстрыі.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 583

Падпісана да друку 22.06.2012. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.

Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.